ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

14 сакавіка 1997 г. | № 11/3887 | Кошт 3 000 руб.



### *БУДЗЬМА РАЗАМ!*

*Шаноўныя чытачы, у вас ёсць яшчэ час да 18 сакавіка, каб падпісацца на наш тыднёвік на другі квартал 1997 года. Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні. Напамінаем, што кошт тыднёвіка на квартал — 30 тысяч рублёў, на месяц — 10 тысяч.*

**Наш індэкс — 63856**



*Быў час, калі Аляксея Шадзько часцей можна было заспець на эстраднай, чым на драматычнай сцэне. Колькі гадоў таму ягонаю сталаю драматычнаю сцэнай зрабілася сцэна Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі. Надараецца, выпадае, ён спявае і на ёй — у драматычных спектаклях. А сольны аўтарскі канцэрт Аляксея адбыўся ў Мінску якраз напярэдадні фестывалю "Маладзечанская сакавіца". Пачынаецца фестываль сёння, 14 сакавіка, а 16 сакавіка з чынным удзелам Аляксея адбудзецца спектакль "Скарпіён" паводле Л. Андрэева. Спектакль прадставіць і дасць уяўленне пра найноўшы мінскі тэатр — Малы. Для работы ў сваіх спектаклях Малы тэатр запрашае акцёраў з розных труп, — магчыма, тэатр калі-небудзь займее і сваю сцэну. Мо яна станецца трэцяю сцэнаю Аляксея Шадзько?*

Фота Г. ЖЫНКОВА

ВЫСТАВЫ

# Покліч зямлі продкаў

***Крысціян Наркевіч-Лейн, дырэктар The Chicago Athenauem, наладзіў новую выставу малюнкаў "Чарнобыль вачыма беларускіх дзяцей".***

Толькі параўнаўча нядаўна Крысціян Наркевіч-Лейн, сам народжаны ў Фінляндыі, дазнаўся, што ягоная генеалогія па матчынай лініі ідзе ад старадаўніх беларускіх родаў Йодка-Наркевічаў, Кацюцэвічаў, Радзівілаў. Брат ягонага дзеда, Якуб Йодка-Наркевіч, быў найвыдатнейшым беларускім навукоўцам, найбольш цікавыя яго працы звязаны з даследаваннямі Х-праменняў ды канструяваннем рэнтгенапарата.

Падчас паездкі на Беларусь Крысціяну ўдалося зрабіць ксеракопіі старонак царкоўных ды касцельных кніг, знайсці некаторыя старыя фотаздымкі, генеалагічныя схемы і табліцы, зрабіць здымкі напаўразбуранага храма ў родных мясцінах, падмурка былой сядзібы дзядоў... Усё гэта ўстрывожыла, усхвалявала душу. Тады і нараджалася ў Крысціяна Наркевіча-Лейна пачуццё, што вылілася потым у верш "Беларусь":

***Магутны голас матчынай крыві***
***Даўно ўжо не дае мне супакою***
***І апантана кліча вось сюды,***
***Да нашае капліцы і сядзібы,***
***Да гэтага чароўнага пейзажу***
***З яго меланхалічнаю аздобай,***
***З халоднымі вятрамі ды дажджом,***
***З высокімі нябёсамі ды сумам,***
***Які, здаецца, на вякі над вамі...***

*(Пераклад з ангельскай мовы).*

Крысціян Наркевіч-Лейн прыцягвае ўвагу амерыканскай грамадскасці да праблем і бедаў тых, хто жыве на атручанай радыяцыяй зямлі. Стварае фонд "The Radzivill/Jodko-Narkievich Foundation", мэта якога дапамога тым, хто пакутуе ад чарнобыльскай аварыі, і перш за ўсё — дзецям. Фонд распачаў збор сродкаў, заняўся адпраўкай у беларускія дзіцячыя бальніцы абсталявання, лекаў, прадуктаў харчавання. Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША дапамагло скласці дакладны спіс усяго неабходнага.

Выстава "Малюнкі дзяцей Чарнобыля" экспанавалася ў Вашынгтоне ў Нацыянальным клубе арміі і флоту, пасля адкрылася ў Чыкага. Плануецца паказаць яе ў Сан-Францыска, Бостане, Нью-Йорку, Мінеаполісе, вядуцца перамовы аб паказе ў Осла, Вене, Лондане.

"Хай як мага болей людзей даznaецца, што адбылося на той зямлі і як там цяпер жывуць, — сказаў мне падчас апошняй сустрэчы гэты чалавек з адкрытым тварам і знаёмым сумам уваччу. — Я павінен нешта зрабіць для гэтай зямлі, і перш за ўсё для яе дзяцей. А потым і для яе культуры, што знікае з яе незвычайна багатай духоўнай гісторыі..." Памаўчаўшы крыху, Крысціян Наркевіч-Лейн дадаў: "Цяпер я неразлучны з Беларуссю".

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ**

*г. Чыкага*



ЭКСЛІБРЫС

# Стодзівы

*Анатоль Дэбіш. Вершы. Мінск, "Мастацкая літаратура". 1995.*

**"Каханне і смерць" — так некалі назваў адзін з цыклаў сваіх вершаў М. Багдановіч. І калі пра каханне ў нашай паэзіі напісана добра і шмат, дык вось тэма смерці — не кожнаму паэту даспадобы.**

**Калі б у мяне спыталіся адказаць адным сказам: што гэта за кніга ў А. Дэбіша, я сказаў бы: добрая кніга самотнага паэта пра смерць. Асоба паэта і лірычнага героя ў "Стодзівах" — непадзельныя.**

**Ёсць тут нейкія радкі, вершы і нават трыпціх пра каханне, але гэта, падаецца, маскіроўка асноўнай ягонай улюбёнай тэмы — самоты і смерці. Паэту самотна і няўтульна на гэтай зямлі. Ягоная самота дасягае мяжы, бо нават "недзе там, за спіною цень мой блукае, не можа мяне адшукаць".**

**Не будзем аналізаваць прычыны гэтае самоты, але, падаецца, недарэмна А. Дэбіш піша: "мне б — у лес да звяроў, мне б — да птушак, мне б — неба глыток", а самыя цёплыя ягоныя ўспаміны — у дзяцінстве.**

**Дзе выйсце? Паэт разважае: "Да Бога далягець хацеў бы я анёлам, забыцца на жыццё. Ды паламаны крылы..." Застаецца адно — смерць. Яна бачыцца яму ў прыродзе: "зімовых вечароў сняжок згусцелы свет апрануў увесь у саван белы"; у мастацтве: "рука яго выводзіць фарбы лета, маленькіх птушачак, рамонкі, твар дзявочы, а я чытаю на мальберце: смерць"; у вобразах рэальнасці: "чэрап счарнелы на мокрым пяску... Божа, адкуль гэты чэрап і кроў?"; ва ўявах: "і па кутах там памерлых схаваныя твары".**

**Смерць неадольна прыцягвае паэта: "штовечар... іду я на клады, ад дому недалёка, каб аднаму пабыць у цішыні". Паэт баіцца яе: "мой Божа, я малюся, каб вашае не ўбачыў я магілы", але не можа і адарвацца ад любавання ёй: "ляжыць нерухома на лаве ў святочным убранні: румянак на шчоках, усмешка застыла на твары". То ён "адзін, мярцвяк — сярод жывых", то навокал яго "бы мёртвая рака, халодны плыў натоўп".**

**Неаднойчы ён уяўляе сваю гвалтоўную смерць і ў снах: "мне сніўся сон: знянацку мне ўпілася ў плечы чужынца вострая страла", і ва ўявах: "і струменіцца кроў з маіх ран на імхі і на дол вечаровы". Яго расстрэльваюць, ён сам развітваецца з жыццём: "звон разбітага шкла: ані енку, ні крыку... ля нямога пад'езда ляжу нерухома", ці нечакана памірае: "і раптам небасхіл хіснецца на імгненне і рухне на зямлю...". Паэт перакананы, што ў смерці — выратаванне: "збавення няма, апроч смерці ў жыцці, ад вечных пакут і штодзённага тлуму". Не толькі ён абірае смерць, але і смерць яго: "смерці выбраннік ляжу я на пласе самотны". Ён бачыць у смерці трагічную красу і яе няўхільнасць: "яшчэ не народжаны — я ўжо памерлы". Урэшце, яна стала неад'емнай часткаю ягонага Я, дзе няма ўжо мяжы паміж смерцю і жыццём: "а мо нічога не было: ні нараджэння, а ні смерці?"**

**"Што ж ісціна? — пытаецца паэт і адказвае — Бог, і каханне, і смерць"... Ісціну сёння шукаюць не толькі паэты...**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

АДГАЛОСКІ

# Як забаліць, закрычыш "мама"!,
## альбо "Этнаграфізм" у новай рэдакцыі

У сярэдзіне студзеня — пачатку лютага ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі праходзіла выстава твораў расійскага мастака Сяргея Палякова. Мяркуючы па тым, што арганізатары парупіліся, каб напярэдадні выставы з'явіўся артыкул пра мастака ў нашым часопісе "Мастацтва"; што на адкрыццё былі запрошаны бадай усе мінскія журналісты, якія пішуць пра выяўленчае мастацтва; што на вернісажы прысутнічалі першыя асобы расійскай амбасады, выступаў расійскі пасол — Масква надавала выставе выключнае значэнне.

Колькі памятаю, за савецкім часам з Масквы ў Мінск вельмі рэдка прывозілі прыстойныя мастацкія выставы. Я маю на ўвазе ўласна расійскае мастацтва, а не так званае "ўсесаюзнае". Бывала і такое, што пасля таго, як усесаюзная выстава прайшла ў Маскве, яе вазілі па буйнейшых гарадах краіны. І там было што паглядзець. А вось каб з Масквы прывезлі ў Беларусь нешта расійскае, вартае ўвагі — не памятаю. Але дагэтуль не магу забыць цудоўныя экспазіцыі армянскага жывапісу і скульптуры, жывапісу Латвіі, вялікую выставу выяўленчага мастацтва Эстоніі, якія ў 80-х гадах ладзіліся ў мінскім Палацы мастацтваў.

Крыўдаваць на Маскву за такое да нас стаўленне не выпадае. Бо, згодна імперскай субардынацыі, Мінск быў для Масквы тое ж самае, што для Мінска Жлобін альбо Чачэрск. Ці часта мінскія мэтры ў той час выбіраліся на сустрэчу з гледачамі ў раённыя альбо нават абласныя цэнтры? Не, кожны марыў пра персаналію ў Маскве. Ну а маскоўскіх хлопцаў цягнула далей — за мяжу, на Захад. Туды, дзе шалясцяць долары...

Строгая субардынацыя пахіснулася напярэдадні скону СССР. Тады ў Мінск з выставай, дзе дамінавалі дзве карціны — скандальная "ХХ стагоддзе" і патрыятычна-кан'юнктурная "Вечная Расія", завітаў Ільля Глазуноў.

А потым Масква (Расія) з яе выяўленчым мастацтвам неяк выпала з нашай мастацкай культурнай прасторы. Ды "святое месца" не бывае пустым — яе месца заняла Германія...

Актыўнасць Інстытута імя Гётэ і Штутгартскага Інстытута замежных культурных сувязяў выклікае ў мяне шчырае захапленне і зайздрасць. Недзе за апошнія сем гадоў немцы зрабілі ў Мінску столькі выстаў і іншых культурніцкіх акцый, што новае пакаленне беларусаў ужо ведае Германію бадай што лепей, чым бліжэйшых суседзяў з ліку колішніх "брацкіх рэспублік". Хай бы так урад маёй краіны клапаціўся аб прапагандзе беларускай культуры за мяжою!..

Вярнуся, аднак, да тэмы, да выставы Сярея Палякова. Мастак нарадзіўся ў 1956 годзе ў Гомелі. Вучыўся ў Маскве ў Інстытуце імя Сурыкава. Ягоныя работы набыты Траццякоўкай, Музеем выяўленчага мастацтва Татарстана, шэрагам прыватных галерэй і прыватных калекцыянераў у Расіі за яе межамі. Сяргей Палякоў выстаўляўся ў Японіі, Славакіі, Злучаных Штатах Амерыкі. Асобна трэба вылучыць персанальную выставу ў бібліятэцы ААН у Нью-Йорку. "Раскручвае" мастака, стварае яму імідж банк "Деловая Москва". Дзякуючы яму адбылася і сустрэча мінскіх гледачоў з творчасцю С. Палякова.

Мастак не ўваходзіць у эліту, але, мяркуючы па колькасці выстаў і публікацый, упэўнена трымае свой "сегмент" мастацкага рынку. Наколькі я магу меркаваць па каталогах, у далёкім замежжы С. Палякоў экспануе творы з эратычным ухілам. У Мінску ж гэты напрамак ягонай творчасці прадстаўлены не быў. Мінская экспазіцыя будавалася выключна на "славянскай" тэматыцы. Відаць, такі падыход адпавядае "інтэграцыйным" памкненням кіраўнікоў Беларусі і Расіі.

У адносна ранніх творах С. Палякова (ён яшчэ надта малады, каб ягоную творчасць дзяліць на "раннюю" і "познюю") адчуваецца ўплыў Ільі Глазунова. Славянскія багі і дэманы ў трактоўцы Палякова нагадваюць персанажы страшных казак. У апошніх карцінах мастак адыходзіць ад традыцыі, якую ўмоўна можна лічыць рэалістычнай. Цяпер ён працуе ў стылі, блізкім да негеаметрычнага абстракцыянізму. Але ў назвах твораў па-ранейшаму захоўваецца, так бы мовіць, "славянскі" каларыт. Сваё натхненне ён, нібыта, чэрпае ў дахрысціянскіх рэаліях, у язычніцтве. Мне ў гэта не надта верыцца, бо на выставе шмат твораў, дзе "славянства-паганства" прыцягнута штучна. Гэта ў вочы кідаецца. Але, зрэшты, не ў гэтым справа — кожны зарабляе, як умее. Хай ступень шчырасці мастака вызначае нехта іншы. Мяне ж зацікавіла вось якая акалічнасць...

Гадоў дваццаць назад ці не па ўсіх "нацыянальных ускраінах СССР" прайшла мастацкая хваля, якую маскоўская крытыка пагардліва акрэсліла "этнаграфізмам". (Дарэчы, тэрмін "імпрэсіянізм" напачатку таксама меў сэнс зняважлівы). "Этнаграфізм" быў рэакцыяй на культурную палітыку КПСС, на імперскую уніфікацыю, на спробы Масквы ўціснуць сотні нацыянальных культур народаў СССР у "пракруставе ложа" так званага "сацыялістычнага рэалізму" і "савецкага ладу жыцця".

"Этнаграфісты" якраз і цікавіліся праявамі адыходзячага побыту, малявалі нацыянальныя касцюмы, аднаўлялі на сваіх палотнах старажытныя абрады; як археолагі, паглыбляліся ў глыбіню вякоў, у свет дахрысціянскай цывілізацыі — там, сярод язычніцкіх (альбо паганскіх — каму якое слова болей падабаецца) багоў і дэманаў шукалі сваё першаснае.

У Беларусі пік "этнаграфізму" прыпадае на пачатак 80-х гадоў. А вось як на гэта глядзела тады Масква. Цытую рэцэнзію-агляд рэспубліканскай выставы ў Мінску ("Творчество", N 9, 1983): "Гипертрофированная "национальная озабоченность" зачастую приводит к серьезным художественным потерям. Очень печально, когда люди не бездарные и руководствующиеся все теми же благими намерениями с упорством, достойным археолога, отыскивают черты кондового быта, будучи уверенными в том, что атрибуты уходящего, скрупулезно "пересчитанные", обретут значение символов национального духа, что земляков своих следует непременно изображать в театрализованных костюмах, устраивая из реального, интересного, многопланового народного бытия некий фольклорный фестиваль... К сожалению, такого рода "национального" было на выставке в Минске немало (...) Не следует ли внимательно приглядеться к коллективному опыту нашего многонационального искусства, который убедительно свидетельствует: ни этнографизм, ни национальный пассеизм никогда не становились художественно плодотворной программой".

І вось праз чатырнаццаць гадоў маскоўскі мастак ладзіць у Мінску выставу, дзе ідэйны стрыжань — этнаграфізм, а праз усе творы "чырвонай ніткай" праходзіць "национальная озабоченность" (наколькі яна шчырая альбо кан'юнктурная, я не ведаю). А ў каталозе выставы пішацца: "...давно волновавшие художника отголоски древнего бытия славянских народов, нечто "доначальное", вспышки генетической памяти были сублимированы Поляковым в один вдох,

*(Працяг на стар. 4)*

## Пад сузор'ем... Ільвіцы



**Сам лёс ёй наканаваў — быць гераіняй! Нездарма ж нарадзілася пад жнівеньскім небам: ільвіца! Прыгожая, уладарная, вабная. І голас у яе — прыгожы, моцны, чарадзейны, пяшчотны. І гераіні ў яе — незабыўныя, вабныя, натуры моцныя і пяшчотныя: Сільва, Марыца, Віялета, Ганна Главары, Разалінда... І глядач у яе — самы адданы!**

**Глядач Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі з дзесяткаў жаночых вобразаў, што ажываюць на сцэне і ў класічных аперэтах, і ў спектаклях на музыку нашых сучаснікаў, — гэты глядач заўсёды пазнае-вылучыць гераінь Вікторыі Мазур.**

**Яна мае сталую сімпатыю залы — і гэта галоўнае ў творчасці.**

**Яна атрымала высокае афіцыйнае прызнанне сваёй працы ў музычна-тэатральным мастацтве — і гэта немалаважная падзея ў жыцці.**

**Віншуем Вікторыю Мікалаеўну з наданнем ёй ганаровага звання народнай артысткі Беларусі! І друкуем гэты здымак — як напамін пра колішні вялікі канцэрт з нагоды юбілею роднага тэатра, дзе Вікторыя Мазур выступіла ў дуэце з цудоўным артыстам Пятром Рыдзігерам. Брава, Гераіня!**

**8 сакавіка ў сталічнай філармоніі прайшоў яе бенефіс...**

**С. Б.**

*Фота Віт. АМІНАВА*

## ...Ад "Святога Валянціна"

**У нашым мастацтве настаў час не біцця старога посуду, а час фармавання новых адносінаў. Аглушальны грукат не народзіць нешта новае, — засведчыў адзін з найбольш актыўных крытыкаў мастацтва Міхал Баразна падчас адкрыцця 13 лютага выставы трох маладых — Дзмітрыя Махамета, Андрэя Савіча і Валерыі Маляўкінай — студэнтаў Акадэміі мастацтваў. Адкрыццё адбылося ў выставачнай зале мастацкага цэнтра "Жыльбел" у Траецкім прадмесці напярэдадні Дня Святога Валянціна, свята закаханых, а значыцца ўсіх маладых — душой і целам.**

**Статус студэнта не перашкодзіў маладым мастакам паспрабаваць свае сілы ў мастацкім выяўленні, у арганізацыі сталай экспазіцыі, якая абяцае стаць традыцыйнай, штогодняй у свята кахання. Праўда, новае — не заўжды і неабавязкова павінна быць арыгінальным. Але спроба адысці ад класічных уяўленняў у фантазійную прастору, у алегарычнасць і дэкаратыўнасць не толькі магчыма, але і апраўдана ў студэнцкія гады. Так можна вынішчыць хвалю ненатуральнасці, штучнасці, рэфлексіўнасці і негрунтоўнасці ў выяўленчым мастацтве, што часам прарываецца ў моладзі ў той момант, калі яна выходзіць са сцен навучальнай установы на "вольную" прастору. Займеўшы магчымасць непасрэдна параўнаць сваю экспазіцыю з сапраўдным жывым мастацкім працэсам, творчая моладзь, думаецца, будзе намагацца "вярнуцца" ў сцены Акадэміі мастацтваў, каб скончыць мастацкую адукацыю дзеля сваёй жа карысці, каб не застацца толькі ілюстратарам выцвілых мастацкіх ідэй.**

**Н. ЖОГЛА**

НОВАЕ

# "Каб не 50-гадовы вакуум..."

***Усе мы ведаем, што адбываецца зараз з беларускім школьніцтвам. Колькасць беларускіх класаў ужо некалькі гадоў запар змяншаецца. Беларускасць увогуле не ў пашане. Гэта — у нас. А што з беларушчынай і, у прыватнасці, са школьніцтвам, на Віленшчыне — такой блізкай і такой далёкай?***

***Карэспандэнт "ЛіМа" Аляксей ШЭІН гутарыць з вядомым грамадскім і культурніцкім дзеячам, старшынёй летувіскага Таварыства беларускай школы сп. Лявонам ЛУЦКЕВІЧАМ.***

**— Сп. Лявон, калі і як аднавілася ТБШ?**

— Таварыства беларускай школы мае даўнія традыцыі. Такая ж арганізацыя (на базе той, колішняй) узнікла нядаўна і ў Беларусі.

У Летуве (цэнтрам стварэння была, канешне, Вільня) ТБШ аднавілася ў 1993 годзе. Таварыства было створана з ініцыятывы аддзялення беларускай мовы, літаратуры й этнаграфіі Педагагічнага універсітэта. (Сёння там вучыцца чалавек 15 беларускай моладзі).

У самым пачатку сваёй дзейнасці арганізацыя не мела шырокага розгаласу. (Бо, як вядома, колішняе, 20-х гадоў, ТБШ было сапраўды масавым. У Заходняй Беларусі Таварыства, паводле колькасці сваіх сяброў, было на другім месцы пасля Беларускай сялянска-работніцкай Грамады). Але, у кожным разе, пэўную ролю адыграла, бо ў той час якраз вырашаўся лёс беларускай школы ў Вільні. ТБШ, безумоўна, дапамагала школе. Зрэшты, не толькі ТБШ, але й іншыя беларускія грамадскія арганізацыі, якія існуюць у Летуве. Бадай што найбольш паважная і даўнейшая з іх — Таварыства беларускай культуры, і яшчэ клуб "Спадчына", які нават раней узнік...

Зараз школа імя Ф. Скарыны (былая віленская СШ N 68) — адзіная сярэдняя беларуская школа ў Летуве. Аднак ужо пачынаецца нарастанне знізу беларускіх класаў у Вісагінасе (гэта горад каля атамнай электрастанцыі). Там народ неаднародны па нацыянальнасцях і, безумоўна, нямала ёсць і беларусаў. У горадзе існуе самастойнае згуртаванне беларусаў, якое ад Вільні непасрэдна не залежыць — яны здолелі "прабіць" беларускія класы.

**— Я нядаўна размаўляў са сп. Галінай Сівалавай, дырэктаркай школы імя Ф. Скарыны, і яна расказала, як на Віленшчыне аднаўляюцца, ствараюцца польскія школы — не параўнаць з беларускімі...**

— Тут трэба зірнуць у пасляваенную гісторыю гэтага краю. Як вядома, Віленская беларуская гімназія была гвалтоўна зліквідавана ў 1944 годзе. Таксама як і савецкая Беларусь, савецкая Летува не была самастойная і прыслухоўвалася да камандаў з "цэнтра". Безумоўна, адна з камандаў была такая, каб беларусаў тут цалкам зліквідаваць. Калі б на гэтай перыферыі, на гэтым памежжы існавала нейкае грамадскае жыццё, школьніцтва і г. д., гэта б вельмі не ўпісвалася ў агульную палітыку. Таму абсалютна ўсе беларускія школы былі закрытыя, закрыта была й гімназія. А паколькі насельніцтва тут, у асноўным, не летувіскае, дык усе этнічныя беларусы-каталікі аўтаматычна мусілі ісці ў польскія школы. Такая сітуацыя трывала на працягу 50-ці гадоў — гэта ж ужо колькі пакаленняў, і самасвядомасць тутэйшых беларусаў вельмі-вельмі знізілася. І калі мы згадваем пра гісторыю беларускага школьніцтва, якое пачалося недзе ў 1915 г. (першыя 5 беларускіх школ былі адразу адкрыты ў Вільні), дык узнікае пытанне, чаму ж цяперака ніхто не ідзе ў беларускія школы? Чаму іх няма? Чаму іх так цяжка адрадзіць? Таму што ўсяго гэтага не існавала паўстагоддзя. Раўнавага была зрушана.

**— Тым больш, што Польшча мае тут вялікі культурны, інфармацыйны ўплыў: польскія газеты, радыё, тэлевізія.**

— Безумоўна. Гэта шмат дапамагае іхнім школам, культурніцкім арганізацыям. Непараўнальна больш, чымся Рэспубліка Беларусь дапамагае тутэйшым беларусам.

**— Вы з'яўляецеся рэдактарам беларускай праграмы летувіскага радыё...**

— Наш эфірны час вельмі абмежаваны, але, праўду кажучы, на гэтай дзялянцы я ўжо працую, дзякуй Богу, восьмы год. Штотыдзень, у суботу, мы выпускаем паўгадзінную перадачу чыста культурніцкага характару. Палітыкі ў ёй практычна няма. Хаця нельга сказаць, што культурніцкая работа ўвогуле не звязаная з палітыкай: гісторыя, пэўнае асвятленне нашай мінуўшчыны, нашай сучаснасці ў культуры — таксама адлюстраванне сітуацыі палітычнай.

Акрамя таго, існуе 10-хвілінная штодзённая інфармацыйная перадача. Яна не ў руках беларусаў — проста яна беларускамоўная. Але трэба цешыцца і тым, што ёсць... На тэлебачанні беларусы маюць штотыдзень 10—12 хвілін — тэлеперадачу, якую вядзе Тацяна Дубавец. Такія нашыя магчымасці ў электронных СМІ.

А перыядычнага друку мы, на жаль, зусім пакуль што пазбаўлены, хаця ўсе суполкі пра гэта мараць. Можа, здолеюць аб'яднацца й нешта пачаць.

**— Калі не памыляюся, годзе ў 1992 мне на вочы трапілася невялічкая газетка "Вільня і край". Хто яе выдаваў? Чаму не выдаюць зараз?**

— Гэта была спроба зрабіць пры "Нашай ніве", якая не мела, праўду кажучы, мясцовага характару, маленечкую газетку чыста мясцовую. Але з гэтага практычна нічога не выйшла.

Гады паўтара мы мелі магчымасць выдаваць штотыдзень старонку "Беларус Віленшчыны" ў расійскамоўнай газеце "Эхо Литвы", і пазней у польскамоўнай "Kurjer Wilenski", там і там па-беларуску, толькі ў першай — кірыліцай, а ў другой — лацінкай — гэта старая традыцыя яшчэ з нашаніўскіх часоў. Але ўсё ўперлася ў грошы. Калі нам спачатку дапамагала Міністэрства фінансаў Летувы (яно нам літаральна загадала: "Вось вам крышку грошай — гэта на беларускую старонку"), то цяпер гэтага няма. Ды й з ідэалагічнага пункту гледжання гэтыя газеты не зацікаўлены ў прапагандзе беларушчыны. А з іншага боку, ім гэта нявыгадна эканамічна, таму што калі гэтую самую старонку запоўніш рэкламай... Ніякія беларускія суполкі такія страты не кампенсуюць.

Так што магчыма толькі думаць пра стварэнне хоць вельмі сціплага, але свайго ўласнага выдання. Калі грошы ёсць, надрукаваць заўсёды магчыма.

**— Ці можна сказаць, што быць беларусам у Летуве непрэстыжна?**

— Безумоўна, безумоўна... Але ж гэтая непрэстыжнасць узнікла не толькі цяпер, хаця сёння яна і ўзмацнілася. Таму што калі сама Рэспубліка Беларусь страчвае прэстыжнасць у Еўропе ўвогуле, дык гэта выклікае неадназначныя адносіны нават да свядомых беларусаў. Канешне, адны спачуваюць, іншыя ўвогуле мала ўвагі звяртаюць на нас. Але непрэстыжнасць беларушчыны ўзнікла адразу пасля II Сусветнай вайны. Паступовая ліквідацыя грамадскага жыцця, ліквідацыя школьніцтва. Тут жа былі вельмі моцныя традыцыі, быў беларускі музей, які гвалтоўна зліквідавалі ў тым самым 1944 годзе...

Аднак людзі цывілізаваныя, культурныя, якія разумелі гэтую сітуацыю, звычайна ставіліся дастаткова спрыяльна да беларусаў. Менавіта беларуская меншыня не выклікала варожасці, бо яна абсалютна не мела ніякіх адзнак агрэсіўнасці. У той час, калі імкненне той жа Польшчы ўсякімі спосабамі падкрэсліць, што на працягу міжваеннага дваццацігоддзя тут была Польшча, стварала пэўныя ўмовы меркаваць: правільна гэта ці няправільна, і каму тут усё павінна належаць. Адносна беларусаў такіх праблем не было, так што пераважна ставіліся хутчэй з сімпатыяй, але трактавалі недастаткова паважліва, бо беларусы тут не мелі ніякай магчымасці сябе выяўляць...

Вы ведаеце, мне здаецца — тая сітуацыя, што склалася ў Беларусі для людзей, якія прадбачлівыя ў палітыцы, шмат што значыць. Яны, безумоўна, бачаць у гэтым небяспеку. А калі бачаць небяспеку, у іх да нас адпаведныя адносіны.

**— Пэўна ж, вам не надае ніякага імпэту ў справе школьніцтва тое, што адбываецца з беларускімі школамі ў Беларусі. Там таксама ёсць сваё ТБШ, якое, фактычна, супрацьстаіць дзяржаўнай адукацыйнай палітыцы. Таму нельга думаць, што летувіскаму ТБШ будуць дапамагаць тыя, хто не любіць беларускасці на Беларусі. Вас кінула сённяшняя беларуская дзяржава?**

— Тутака пакуль што канфліктных сітуацый няма. Прадстаўніцтва РБ стараецца не паказаць нейкай варожасці да мясцовых беларускіх суполак. І гэта зразумела, бо ім жа тут жыць і кантакты наладжваць. Падобная сітуацыя існуе ва ўсім свеце — мы ж ведаем, як эміграцыя сёння ставіцца да сённяшніх улад на Беларусі, як цяжка ўсім гэтым дыпламатам у такіх варунках існаваць і захоўваць добрую міну пры дрэннай гульні. Тое самае ў нейкае ступені адчуваецца і ў нас.

**— *Што яшчэ, акрамя падтрымкі беларускай школы ў Вільні, можна сказаць пра канкрэтныя справы ТБШ?***

— Ёсць пэўныя планы, але яны з цяжкасцю рэалізуюцца. Зусім зразумела, што ўсялякая грамадская праца, асабліва сёння, звязана з фінансамі. А іх не хапае. Тут няма амаль ніякіх крыніц. Так што цяжка праявіць асабліва вялікую актыўнасць. Было б нябла га (ёсць такая задума) хоць зрэдчас выпускаць сваё выданне. Некалі ў Вільні выходзіў месячнік "Беларускі леталіс", орган колішняга ТБШ. Мы меркавалі тут выпусціць квартальнік. Акрамя таго, Таварыства займаецца арганізацыяй разнастайных масавых імпрэзаў. Ізноў-такі — цяжкасці. Трэба памяшканне, грошы.

**— А ці быў сэнс ствараць чарговую беларускую арганізацыю? Ці не тыя ж самыя людзі працуюць адразу ў некалькіх культурніцкіх аб'яднаннях?**

— У нейкай ступені гэта ёсць, праглядаецца. Але, разумееце, Таварыства мае пэўны, вузкі накірунак менавіта на школьніцтва.

Бяда, якую мы ўсе зараз перажываем, — адсутнасць глыбокай кансалідацыі ў нашым грамадстве. На гэта ў вялікай ступені паўплывала сітуацыя ў Беларусі. Яшчэ гады 3—4 таму назад грамадства тут было больш скансалідаванае. Не было прычын для розных поглядаў на сённяшнюю сітуацыю. А цяпер такія прычыны ўзніклі. І гэта таксама псуе грамадскую работу.

Але я думаю, што, у кожным разе, такую арганізацыю, як ТБШ, сёння трэба захаваць. Наколькі яна будзе актыўнаю ў бліжэйшы час — цяжка сказаць. Ад самой арганізацыі будзе залежаць яе актыўнасць. І я думаю, што калі яна будзе дастаткова цесна супрацоўнічаць са школай, то ўсё будзе добра. Школе трэба дапамагаць, у школы цяжкасці з кадрамі, не хапае кваліфікаваных настаўнікаў.

Але, урэшце, усё гэта з'яўляецца вынікам адсутнасці беларускага школьніцтва на працягу такога доўгага перыяду. Каб не было такога вакууму, было б значна лягчэй. Каб мы цяпер маглі перанесціся ў нейкі 46-ы, 47-ы, 50-ы год, калі гэта было яшчэ так нядаўна, толькі нядаўна існавала гімназія, і была яшчэ сетка беларускіх школ — безумоўна, усё было б лёгка, зручна. Але ж такі вялікі перапынак прынёс аграмадную шкоду...

# Як забаліць, закрычыш "мама"!..

*(Праціяг. Пачатак на стар. 3)*

в хрупкое видение того, о чем каждый из нас знал, но забыл, чувствовал, но остыл. Языческие орнаменты, поэзия сказок, научные труды по быту и верованиям славян, поездки по древним городам — все эти ощущения по творческой воле художника создали новый мир, ставший пластическим отражением невоплощаемой энергии ушедших времен".

Як бачыце, хваля "этнаграфізму" дакацілася і да Масквы... Мы ў Беларусі ўжо забыліся, што такое "этнаграфізм", бо даўно тое было. А ў Расіі толькі зараз робяцца першыя крокі ў гэтым мастацкім напрамку.

Чаму ж так здарылася? Мяркую, з той прычыны, што Расія толькі ступае на шлях, які іншыя народы былога СССР ужо прайшлі. Расія толькі ідзе туды, адкуль народы Балтыі, Украіны, Беларусі, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі ўжо вяртаюцца. Нягледзячы на ўнутраныя праблемы, чатырнаццаць краін, чатырнаццаць былых рэспублік СССР — на хвалі Адраджэння. Расія ж — на хвалі роспачы. Бо "парад суверэнітэтаў" працягваецца ўжо на тэрыторыі РФ.

Пакуль была імперыя і быў імперскі стыль "сацрэалізм", "нацыянальная заклапочанасць" беларусаў ды іншых "нацыяналаў" успрымалася з Масквы як глупства і недарэчнасць. Сёння ў новай палітычнай сітуацыі Масква прапаноўвае "этнаграфізм" у "славянскай" аздобе на экспарт. Звычайная, зрэшты, справа: у скрушныя часы апірышчам можа быць толькі родная зямля, толькі нацыянальная глеба.

Гэты закон аднолькавы што для нас, што для Расіі. Як забаліць, закрычыш "мама!", нават калі матчыную мову забыў...

Творчасць Сяргея Палякова адлюстроўвае новую тэндэнцыю ў расійскім мастацтве: рускія мастакі вучацца "гаварыць" па-руску. А паколькі справа нязвыклая, атрымліваецца неяк шапялява. Але галоўнае — пачатак! З гэтым можна іх і павіншаваць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

МЕРКАВАННІ

# Зямля — найпершая маёмасць

ВЫНІКІ рэферэндуму паказалі, што за куплю-продаж зямлі прагаласавала больш за 17 працэнтаў насельніцтва нашай краіны. Калі б пытанне стаяла аб прыватнай уласнасці на зямлю, працэнт быў бы значна большы. Але гэта не азначае, што пры правядзенні аграрнай палітыкі мы павінны ігнараваць меншую частку насельніцтва, якая хоча працаваць на сваёй зямлі і асабіста распараджацца вынікамі сваёй працы. На сённяшні дзень гаспадарамі на зямлі ўмоўна можна лічыць каля 3-х тысяч фермерскіх гаспадарак. Ім для вядзення сельскагаспадарчых работ выдзелена 65,5 тысячы гектараў зямлі. На долю фермерскіх гаспадарак у Беларусі прыпадае 0,7 працэнта сельскагаспадарчых угоддзяў і 0,6 працэнта ворыўнай зямлі. Ці шмат гэта? Канешне, вельмі мала. Вядома, у нашай краіне ёсць яшчэ каля двух мільёнаў уладальнікаў прысядзібных участкаў. Валодаючы толькі 15 працэнтамі зямлі, яны сёння даюць палову сельскагаспадарчай прадукцыі, якая прадаецца на рынку значна танней, чым калгасная прадукцыя ў дзяржаўных магазінах. Аднак трэба сказаць, што наш беларускі фермер — вельмі малазямельны гаспадар. Хіба не бачна сёння, што па законе валодаючы 50 гектарамі зямлі, ён не мае ніякай перспектывы на будучае? Практыка паказвае, што для эфектыўнага вядзення гаспадаркі фермеру патрэбна мець каля 200—300 гектараў зямлі. Аднак да сённяшняга дня на дзяржаўным ўзроўні не прынята ніводнага нарматыўнага акта па ўдасканаленні дзейнасці фермерскіх гаспадарак, іх матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, фінансавання, крэдытавання і г.д. Наспела таксама пытанне аб унясенні змяненняў і ў Закон "Аб праве ўласнасці на зямлю", і ў "Зямельны кодэкс Рэспублікі Беларусь" у частцы абмежавання памеру зямельнага ўчастка для вядзення фермерскай гаспадаркі.

Сёння ўжо ўсім відавочна, што эканоміку нашай краіны ахапіў глыбокі крызіс. Ужо колькі гадоў запар большасць нашых калгасаў і саўгасаў знаходзіцца на краі фінансавага банкруцтва. Яны сёння не могуць купіць паліва-змазачныя матэрыялы, запчасткі, выдаць своечасова заробак калгаснікам, будаваць жыллё.

Ці ёсць выхад з гэтай сітуацыі? Думаю, што ёсць. Дзеля гэтага нам трэба разабрацца, калі мы страцілі сапраўднага гаспадара на зямлі, і зрабіць з гэтага адпаведныя вынікі. Вяртанне гаспадара на зямлю ў нашай сельскай гаспадарцы звязана з адраджэннем арэнды зямлі. Неабходна прааналізаваць гэты працэс у гістарычным разрэзе.

Як вядома, Дэкрэт аб зямлі, прыняты II Усерасійскім з'ездам Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў 26 кастрычніка 1917 года, адмяніў арэнду зямлі адначасова з правам прыватнай уласнасці на яе. Аднак адмена арэнды праіснавала толькі да 1922 года. Чым гэта было выклікана? Вернемся да Сталыпінскай рэформы 1906 года. У той час у вёсцы дзейнічала абшчына, у распараджэнні якой знаходзілася зямля, размеркаваная паміж сялянскімі дварамі. Надзелы зямлі былі вызначаны адпаведна колькасці душ мужчынскага полу ў сям'і. Зямля не была прыватнай уласнасцю сялян. І калі адбывалася адчужэнне гэтых надзелаў (перадача іх у арэнду, продаж), то гэта рабілася без юрыдычнага афармлення. Для перадачы зямлі ў арэнду селянін павінен быў спытаць дазволу ў абшчыны. Атрымаць жа гэты дазвол было не так проста, бо распараджацца зямлёй самастойна селянін не мог. Сталыпінская рэформа прывяла да разбурэння абшчыны. Галоўным зместам рэформы стала стварэнне ўмоў для выхаду селяніна з абшчыны і стварэнне прыватнай сялянскай уласнасці з дазволам куплі і продажу надзелаў зямлі. У выніку рэформы ў 1911 г. агульная колькасць двароў, што валодалі зямлёй на правах прыватнай уласнасці, дасягнула ўжо каля 7-мі мільёнаў.

Трэба адзначыць, што галоўны довад сялян супраць абшчыны заключаўся ў тым, што ў абшчыне зямля не мела гаспадара (як сёння ў нашых калгасах), які мог бы распараджацца ёю па сваёй волі.

У тыя даўнія часы праз сялянскі банк выдавалі сялянам, што выходзілі з абшчыны, ссуды пад мінімальны працэнт на будаўніцтва жылля, на пакупку цягла, інвентару і г.д. А што сёння ў нас? Зямельная рэформа топчацца на адным месцы, работа па арганізацыі дзяржаўнага зямельнага банка не праводзіцца. У нашых чыноўнікаў няма вызначаных абавязкаў па правядзенні дзяржаўнай палітыкі ў зямельнай рэформе. Тым, хто рашыў гаспадарыць самастойна, без сялянскага банка абысціся немагчыма. У горшым выпадку наш фермер асуджаны на прымітыўную фізічную працу. А што робіць наш урад? Мы ж фактычна сядзім ля разбітага карыта. Замест таго, каб распрыгоніць селяніна, вярнуць зямлі гаспадара, чыноўнікі рабуюць яго.

У дзеючым статуце калгаса палажэнне аб недазволенасці здачы зямлі ў арэнду ўжо няма, адзначана толькі, што зямля не можа быць аб'ектам куплі-продажу. Трэба зазначыць, што арэнда зямлі мела значнае развіццё толькі ў краінах сацыялізму (Польшча, Югаславія), дзе ў шырокіх маштабах дзейнічала прыватнае землекарыстанне і аднаасобныя сялянскія гаспадаркі. Тут прыватныя гаспадаркі бралі зямлю ў арэнду ў дзяржавы і, наадварот, дзяржава арандавала ці купляла зямлю ў сялян-аднаасобнікаў.

Прыняты II Усесаюзным з'ездам калгаснікаў у 1935 г. новы статут сельскагаспадарчай арцелі вызначыў, што ўся зямля знаходзіцца ў карыстанні калгасаў, замацоўваецца за імі навек,і пацвердзіў назаўсёды аддзяленне сялян ад перададзенай у калгас зямлі. А самі калгаснікі былі замацаваны за калгасамі пашпартнай сістэмай. Вось вам і прыгоннае права. Сёння трэба прызнаць, што створанае ў ходзе калектывізацыі прадпрыемства "калгас" не было па сутнасці кааператыўнай гаспадаркай. Усё гэта і прывяло да адрыву чалавека ад зямлі і ад сродкаў вытворчасці. Арэнда, на маю думку, павінна змяніць адносіны селяніна да працы, адрадзіць сялянства праз змяненне вытворчых адносін і забяспечыць лепшыя сацыяльныя ўмовы жыцця вёскі. Арэндная маёмасць можа быць уся ці часткова выкуплена арандатарам. Умовы і сродкі выкупу павінны вызначацца дагаворам арэнды.

Сёння супраць арэнды і прыватнай уласнасці выступаюць некаторыя мясцовыя кіраўнікі. І гэта невыпадкова. Арэнда робіць непатрэбнымі тых, хто сёння кіруе сельскай гаспадаркай. Стрымлівае развіццё арэнды зямлі і адсутнасць неабходнай для вядзення гаспадаркі матэрыяльна-тэхнічнай базы. Арандатар-фермер, працуючы на ферме і ў полі касой, віламі ці іншымі прыладамі ручной працы, — горкі папрок нашаму сельскагаспадарчаму машынабудаванню. Пара ўжо нашаму ўраду распрацаваць і рэалізаваць спецыяльную праграму забеспячэння малагабарытнымі механічнымі сродкамі вытворчасці нашага насельніцтва. Без гэтага цяжка чакаць актывізацыі арэндных адносін на вёсцы.

Пакуль што пад арэнду ў нас не падведзена і прававая база.Неабароненасць фермера-арандатара ў выпадку парушэння яго правоў, дагаворных абавязацельстваў прыводзіць да вычакальных адносін селяніна да арэнды зямлі. Арандатар павінен плаціць дзяржаве толькі за зямлю дыферэнцыраваны падатак, звязаны з урадлівасцю глебы, і адказваць за захаванне ўрадлівасці арэнднага ўчастка. Усе іншыя пытанні — што вырошчваць, куды і як збываць прадукцыю — ён павінен вырашаць сам. Трэба адзначыць, што арэндная плата ў капіталістычных краінах мае невялікую долю ў цане зямлі.У нас яна вызначаецца адвольна. Да гэтага часу няма эканамічнай (грашовай) ацэнкі зямлі як асноўнай часткі дзяржаўнага зямельнага кадастра, якая б забяспечыла аб'ектыўную базу для вызначэння арэнднай платы і суадносіны цаны зямлі і арэнднай платы. Без ліквідацыі гэтых перашкод нельга гаварыць аб раўназначнасці арэнды з іншымі формамі вытворчасці.

Асаблівую ўвагу трэба надаць і асабістым сялянскім гаспадаркам. Для іх развіцця неабходна выканаць некалькі ўмоў. Папершае, трэба дазволіць выхад селяніна з калгаса з зямлёй, калі ён гэтага пажадае. У калгасным статуце прадугледжана, што калгаснік мае права добраахвотна выходзіць з калгаса, што яму ніхто не павінен гэта забараніць і што кіраўніцтва калгаса павінна выдаць яму працоўную кніжку і зрабіць разлік. Вось і ўсё. Значыць, уступалі яго продкі ў калгас з зямлёй і маёмасцю, а выходзіць праз дзесяткі гадоў іх нашчадку даводзіцца толькі з працоўнай кніжкай?

Зямля — гэта не толькі месца прыкладання працы, а і ўмова эканамічнай незалежнасці і палітычнай сілы сялян. Такою палітычнай сілай сёння з'яўляецца Беларуская сялянская партыя. Яна паўсядзённа змагаецца за правядзенне зямельнай рэформы і абарону правоў сялян. Вось чаму, калі ўлады не хочуць праводзіць рэформы зверху, нам, сялянам, трэба пачынаць гэтую рэформу самім, знізу.

У законе Рэспублікі Беларусь аб сялянскіх гаспадарках, прынятым 11 снежня 1990 года, падкрэслена, што сялянскія гаспадаркі побач з іншымі дзяржаўнымі і кааператыўнымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі з'яўляюцца асноўным звяном адзінага аграрнага комплексу. Акрамя гэтага, у законе прадугледжана прававая абарона ўласнасці сялянскіх гаспадарак, яе матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, фінансавання і крэдытавання, рэалізацыі прадукцыі. Вызначаны тут і ўзаемаадносіны сялянскіх гаспадарак з прадпрыемствамі, арганізацыямі, прадугледжана стварэнне імі аб'яднанняў, а таксама саюзаў, якія б прадстаўлялі іх інтарэсы. Выканаўчай уладзе дадзена права ў якасці льготы вызваляць селяніна-фермера ад уплаты сельскагаспадарчага падатку на тры гады. Аднак на шляху стварэння сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак шмат яшчэ перашкод. У друку і па радыё чуваць шмат фактаў аб тым, што кіраўнікі калгасаў не даюць дазволу на выдзяленне зямлі жадаючым стаць фермерамі. Мясцовая ўлада прыслухоўваецца да думкі тых кіраўнікоў, што лічаць прымальнай формай толькі калгасы. Але што да калгасаў і саўгасаў, то ў вызначэнні іх далейшага лёсу павінен быць вельмі асцярожны падыход. Не разбураць іх у масавым парадку, як таго патрабуюць некаторыя гарачыя галовы, а індывідуальна разбірацца ў кожным канкрэтным выпадку. Моцныя калгасы і саўгасы, якія эфектыўна працуюць, трэба пакінуць і стварыць ім усе ўмовы для плённага развіцця вытворчасці. Шмат дзе так і робіцца. Ну а тыя калгасы і саўгасы, якія абяздолелі і аслабелі, відаць, неабходна расфармаваць, перадаць іх землі прамысловым прадпрыемствам і другім арганізацыям ці стварыць на іх базе кааператывы ці іншыя фармаванні, у тым ліку і фермерскія гаспадаркі. А такіх у Беларусі набіраецца каля 400 гаспадарак.

Адназначнага падыходу да правядзення зямельнай рэформы быць не можа. Трэба ўлічваць канкрэтныя мясцовыя ўмовы і пажаданні калгаснікаў. Імення так і павінна ісці стварэнне і развіццё шматукладнага гаспадарання на зямлі.


*Фота А. Клешчука*

**Аляксандр ЗАРАНОК,**
**эканаміст, член цэнтральнай рады Беларускай сялянскай партыі**
*г. Калінкавічы*

# Колькі гэта? Эпоха...

**У Канцэртнай зале Беларускай акадэміі музыкі адбыўся вечар, прысвечаны 75-годдзю заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі прафесара Мікалая Браценнікава.**

**75 — колькі гэта? Можна пагадзіцца са словамі, што прагучалі ў той вечар: "75 — гэта восень, а восень — дары прыроды". Менавіта так, восень — час збору ўраджаю, а для нашага юбіляра — атрыманне найвышэйшай адзнакі прафесійным і найперш чалавечым якасцям асобы.**

**Сын зямлі беларускай, прайшоў ён складаны, але цікавы шлях. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны 19-гадовым юнаком стаў абаронцам Радзімы, быў цяжка паранены. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі, у тым ліку ордэнам Айчыннай вайны І ступені. Потым — незабыўныя гады вучобы ў Маскоўскай кансерваторыі, час напружанай працы ў спасціжэнні майстэрства ігры на скрыпцы. Пасля заканчэння кансерваторыі Мікалай Данілавіч па сённяшні дзень працуе ў Беларускай акадэміі музыкі.**

**Педагогіка зрабілася для М. Браценнікава сэнсам жыцця. За амаль паўвекавы стаж ён выхаваў каля сотні скрыпачоў, якія плённа працуюць у навучальных установах рэспублікі, з'яўляюцца вядучымі артыстамі многіх аркестраў, лаўрэатамі міжрэспубліканскіх і рэспубліканскіх конкурсаў. І ў кожнага з іх Мікалай Данілавіч укладае часцінку сваёй душы, выхоўвае імкненне да дасканаласці. Як адзначыў на юбілейнай вечарыне першы прарэктар акадэміі В. Яканюк, М. Браценнікаў — эпоха музычнай адукацыі Беларусі. Сапраўды, ролю гэтага чалавека ў фарміраванні беларускай скрыпічнай школы пераацаніць немагчыма: ён пэўны час быў дэканам аркестравага факультэта, амаль 30 гадоў загадваў кафедрай струнных інструментаў, вядомы як аўтар каштоўных метадычных распрацовак, карыстаецца аўтарытэтам і за межамі Беларусі.**

**Віталі юбіляра прадстаўнікі Міністэрства культуры, розных навучальных устаноў, сябры і вучні. З віншаваннямі і музычнымі падарункамі выступілі студэнты і выкладчыкі Акадэміі музыкі. Пры канцы ўрачыстасці ў раптам пацямнелай зале зазіхацелі свечкі юбілейнага торта. І не сціхалі словы падзякі: "Вы нам патрэбны, Мікалай Данілавіч, бо ваша жыццёвая мудрасць і любоў да музыкі дапамагае нам жыць".**

**Наталля БОХАНКА**

# Навучылася ад маці



**Калі сабраць разам усё, што выткала і вышыла за сваё жыццё Таццяна Навумаўна Хаміцэвіч з вёскі Рог Салігорскага раёна, то, верагодна, атрымалася б сапраўдная выстаўка самабытных вырабаў. Мноства пакрывалаў, ручнікоў, паясоў, настольнікаў выткала і вышыла майстрыха. Вышывала яна і вясельныя сарочкі для жаніха. Яшчэ дзяўчынкай не адыходзіла яна ад маці, калі тая сядала за ткацкі станок. Запамінала кожны рух яе рук, вязь узораў. А потым і сама выткала першыя пакрывалы. Ей заўсёды было прыемна дарыць свае работы і бачыць радасць і ўдзячнасць тых, каму дарыла свае вырабы.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, Кар. БЕЛТА**

*На здымку: Таццяна Навумаўна Хаміцэвіч за работай*

ІМПРЭЗЫ

# Пад музыку зімовага дажджу

## "ДУМАЙ ЖА, ГРЭШНІК..."

Мокры, бясснежны, бяссонечны Віцебск. У такім няпэўна-дэмісезонным уборы горад яшчэ ніколі не сустракаў свой традыцыйны зімовы фэст.

Бясснежны снежаньскі Віцебск. Яго дэмі-аблічча і настрой выклікала адпаведны: такі бывае на досвітку й на змярканні хмурнага дня; позняй восенню і на пачатку вясны, калі неба затуленае аблокамі; пасярод вялікай — берага не відаць! — вады; на памежным пераездзе з яго няўлоўнаю рысай між "тут" і "там"...

А які настрой, такія і думкі. А якія думкі, такі й настрой. Але хіба не заўсёды пачуваюся між "тут" і "там", калі прыязджаю ў Віцебск? Але хіба не пра яго, не пра гэты горад гістарычных парадоксаў, мастацкіх легенд, загадкавых людзей распытваюць мяне раз-пораз мінскія знаёмцы: ці жыве-трымаецца дух беларускі ў Віцебску? Ці жывіць подых традыцый з-над Нявы паветра над Віцьбай і Дзвіною? Ці пазнае сябе ў сабе наш горад, якому нібыта адмаўляюць у самасці тыя, хто параўноўвае, параўноўвае, параўноўвае Віцебск: са Смаленскам, з Піцерам, з Парыжам?

А ён — такі, які ёсць, часцінка зямлі нашай.

І як жа хораша казала пра нашую зямлю ўлюбёная ў яе багатае музычнае мінулае, захопленая справаю адраджэння традыцый, вяртання ад забыцця да засвойвання спадчыны гэтага мінулага, — як хораша казала Вольга Дадзіёмава! Пра тое, што зямля беларуская спрадвек уяўляла сабою мікракосм, які лучыў розныя ментальнасці, і людзям, народжаным тут, лёгка было ўвайсці і ва ўсходні, і ў заходні свет. Але ж драма гістарычных падзей разгарнулася такім чынам, што надоўга пазбавіла беларусаў права пачувацца гаспадарамі ў сваім доме. Не мог пачувацца беларус беларусам. І не мог талент спраўджвацца інакай, як у асяроддзі нацыі пануючай, дзяржаўнай. Беларусь, аддаючы сваіх лепшых сыноў іншым народам, аддавала іх,як Панна Марыя адзінага сына свайго — з болем і жалем.

Двукосся не ўжываю, бо без прэтэнзій на дакладнасць пераказваю прадмову, якую музыказнаўца Вольга Дадзіёмава адрасавала слухачам аднаго з першых канцэртаў традыцыйнага снежаньскага фэсту ў Віцебску.

Такія прадмовы, такія прамовы тут рэдкасць. Нават можна паспрачацца наконт выпадковасці альбо заканамернасці таго, што ў касмапалітычна зарыентаваным асяроддзі (барані Божа віцьбічаў пакрыўдзіць, дый не адны яны такія на грэшнай нашай зямлі), у неспрыяльных для беларушчыны варунках усё больш выразнай робіцца адметнасць штогадовага Фестывалю камернай музыкі імя І. Салярцінскага. Адметнасць, складнікі якой — інтэрнацыянальная шырыня, плюс паглыбленая цікавасць да мясцовай гісторыі, плюс фірмовы ўзровень арганізацыі, плюс тое, што завецца беларускасцю (не прыярытэтнае, але адчувальнае). Ды ўрэшце, у несканчоных спрэчках з усялякай нагоды развучваешся радавацца таму, што ёсць, апекавацца здабытым-дасягнутым, добрым словам ахоўваць добрую справу.

Вось і дазволіла я сабе падчас таго канцэрта — проста радавацца. Радавацца таму, што сапраўдны энтузіяст і нязменны арганізатар фестываляў імя І. Салярцінскага старшыня Віцебскага музычнага таварыства Уладзімір Правілаў наладзіў сталы кантакт з Нацыянальным тэатральна-канцэртным аб'яднаннем "Беларуская Капэла". Што "Беларуская Капэла" разам з вядучымі сталічнымі выканаўцамі ўзяла годны ўдзел у праграме чарговага фэсту. Што канцэрт пад назваю "Планкты" стаўся не адно мастацкай імпрэзай, а і шчырай асветніцкай акцыяй...

Планкты, да нядаўняга часу нязнаныя помнікі старабеларускай культуры, звязаныя з каталіцкай музычнай традыцыяй, упершыню прагучалі ў Мінску, на фестывалі "Адраджэнне беларускай капэлы" (было пра гэта ў першым сёлетнім нумары "ЛіМа"). Віцебская прэм'ера адрознівалася бліскучым публіцыстычна-мастацтвазнаўчым каментарам, іншым складам салістаў.

Спявалі Алена Шведава, Таццяна Цыбульская, Тамара Пячынская, Рыгор Палішчук, Віктар Скорабагатаў. Граў Ансамбль салістаў "Класік-Авангард". Яго мастацкі кіраўнік Уладзімір Байдаў раптоўна захварэў, і каб не сарвалася выступленне, за дырыжорскі пульт упершыню стаў... Андрэй Лапцёнак. Супрацоўнік Міністэрства культуры, музыкант-харавік, ён рызыкнуў дэбютаваць у якасці дырыжора: бракавала часу на рэпетыцыі, не заставалася яго і на ваганні.

Правёўшы канцэрт з годнасцю, Андрэй Лапцёнак пераканаў і калег, і публіку, што нават кур'ёзныя непаразумеласці паміж інструменталістамі, спевакамі ды маэстра не замінаюць лічыць такую творчую рызыку справай сапраўды высакароднай. Дзеля таго, каб і Віцебск пачуў высакародную і дзіўную музыку планктаў, варта было рызыкаваць.

Дзіўным чынам гэтыя светлыя песні-жальбы ды інструментальныя эпізоды, праз якія наканоўвалася асэнсаваць сем апошніх пакутніцкіх дзён Хрыста, прынялі ў сябе ўток жанравых фальклорных традыцый і эстэцкі дух элітарнага еўрапейскага мастацтва. "Думай, грэшнік", "Змёр ён на крыжу", "Кароль мой над каралямі", "І ты быў гатовы, Езус мой", "Думай жа, грэшнік", "Грэшнік, Хрыста ўбач"... Злучалася з музыкай слова, перастворанае з латыні па-беларуску Уладзімірам Мархелем.

І раптам чуваць за спіной перашэпт слухачоў: "Чыталі Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"? Мне здаецца, гэтая музыка вельмі пасавала б, калі б узяліся рабіць экранізацыю..."

Хіба што ўзяліся б экранізаваць наноў. Бо фільм "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" знялі яшчэ ў даадраджэнскія часы, і мала хто яго бачыў. Пра планкты ж нават музыказнаўцы даведаліся, лічы, толькі сёння.

Мудрыя словы знайшла на завяршэнне той фестывальнай сустрэчы спадарыня Дадзіёмава, "Як пасля ўкрыжавання Хрыста адбыўся цуд уваскрасення, так і пасля раскрыжавання ідэі настае яе адраджэнне".

●

Ганна Каржанеўская, мастацкі кіраўнік і канцэртмайстар праграмы "Планкты", расказвала, як падчас выязных канцэртаў рэагуе публіка на старабеларускі рэпертуар. Шмат хто падыходзіць да выканаўцаў, распытвае-захапляецца: "Няўжо мы такія багатыя, няўжо ўсё гэта было калісьці ў нас?!" Вось і віцебская аўдыторыя рэагавала аналагічна. Мала таго: удзячны слухач і даўні прыхільнік таго, што робіць "Беларуская Капэла", знаны мастак Алесь Пушкін прапанаваў удзельнікам канцэрта экспромт: вандроўку па старым горадзе.

Купка няўрымслівых дзівакоў (стаміліся ж, а тут яшчэ і вецер усхадзіўся, і неба прарвала ну проста ліпеньская залева, і вуліцы цёмныя, няветлыя) паслухмяна пакрочыла за выбітнай постаццю свайго павадыра. А той, артыстычным жэстам акрэсліўшы межы Віцебска XII стагоддзя, тут жа тлумачыў акустычны феномен сучаснага канцэртнага амфітэатра "Форум", з якога гук па прыроднай лагчыне, дзякуючы летнім вечаровым туманам, няблага распаўсюджваецца па цэнтральных кварталах горада. Не перапыняючы аповед, вёў да ацалелай забудовы стагоддзя мінулага, паказваў легендарны "дом Малевіча", тузануўшы цёмныя дзверы, запрашаў узняцца па старой лесвіцы да таго самага балкончыка, на якім любіў курыць знакаміты вынаходнік "Чорнага квадрата" ў перапынку паміж сваімі "штудыямі".

Паказваў нам колішнюю Узгорскую вуліцу, па якой шмат гадоў таму везлі на расправу паланёнага Касцюшку і якую ці не "ў гонар" той трагічнай для беларускай гісторыі падзеі назвалі пазней імем геніяльнага палкаводца і адданага ахоўніка самадзяржаўя — Аляксандра Суворава.

Захоплена апісваў грандыёзныя і прыгожыя храмы, якія перажылі стагоддзі, а згінулі ўжо ў нашы дні.

Мусіў нас глянуць з высокай гары на цёмную панурую Дзвіну, каб нагадаць пра апошнія пакутніцкія хвіліны уніяцкага святара Іясафата Кунцэвіча, чыё жыццё зямное абарвалася менавіта тут, дзе некалькі гадоў таму паўстаў асвечаны царквою вялікі крыж.

І ўрэшце — прывёў да дзіўнай камяніцы, якая "памятае" Іясафата Кунцэвіча; у якой на пачатку нашага стагоддзя была гімназія, дзе чытаў свае лекцыі геніяльны філосаф Бахцін, а малады Салярцінскі яго слухаў; дзе нейкі час была праваслаўная семінарыя; дзе падчас вайны кватаравала гестапа... Цяпер тут — Галерэя сучаснага мастацтва, работы самога Алеся Пушкіна і ягоных



сяброў. Ягоны дом. Далі гэтыя сырыя халодныя сцены прытулак і праваслаўным вернікам: у так званай "круглай зале" бываюць сціплыя набажэнствы.

Гаспадар галерэі, сам праваслаўны, жыве тут са шчаслівым пачуццём "хатняй царквы". І — са здзіўленнем...

Вядома, вядома: чалавек усё жыццё мусіць здзіўляцца. Тым болей, калі ён — асоба творчая. Ды вось цікава: мастака Пушкіна здзіўляе ў Віцебску не толькі тое, што побач, а й тое, чаго няма. Зрабіўшы разам з ім вандроўку ў амаль ірэальную рэальнасць, у якой перапляліся міфы і факты, канкрэтыка наваколля і суб'ектыўныя эмоцыі, цяжка было б не захапіцца ягонай высноваю.

Выснова такая.

Увесь час здзіўляюся, прызнаўся мастак, што тысячагадовы Віцебск не мае, хіба што апроч трагічнай асобы Кунцэвіча, ні сваіх святых, ні сваіх цудадзейных абразоў. Святога жыцця ў гісторыі Віцебска мала, у асноўным яна была адметная падзеямі свецкімі: шмат знакамітых людзей, якія або нарадзіліся тут, або сюды прыязджалі, працавалі, або бывалі праездам... Не святасць — свецкасць пераважала ў гісторыі Віцебска.

Што ж, тады невыпадкова з усіх беларускіх гарадоў менавіта Віцебск вылучаецца сваёй схільнасцю да жыцця свецкага, сваёй адкрытасцю насустрач досыць розным гасцям і мастацкім з'явам. Тады невыпадкова ("генетычная" абумоўленасць!) менавіта ён прэтэндуе на ролю нашай фестывальнай сталіцы.

## ТРЫ ІНФАРКТЫ ЯК ЧАТЫРЫ ЦВІКІ?

З пункту гледжання чалавека веруючага, прафесар Барыс Цішчанка выглядаў таленавіта красамоўным ерэтыком.

Уявіце сабе, з чаго пачаў ён выказваць "Погляд на асобу Шастаковіча на грані тысячагоддзяў" — вось з такога саматлумачэння: "Выкажу свае меркаванні, якія не толькі не навуковыя, а нават антынавуковыя. Не веру ў такую навуку — "шастаковічаведанне". Як і пра багаслоўе скажу: дзе

## "Жывая яшчэ душа..."

27 лютага ўвечары ў Доме літаратара было незвычайна людна — паўнюткая зала гледачоў, многія з якіх прыйшлі задоўга да пачатку імпрэзы, каб паспець набыць білеты... Тым больш нязвыклы для нашага прагматычнага часу энтузіязм, бо гераіняй імпрэзы была Яе Вялікасць Паэзія, а героем — зразумела ж, Паэт, — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Вечарына адбывалася ў рамках абанементных сустрэч беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч", і вяла яе мастацкі кіраўнік тэатра актрыса Галіна Дзягілева.

Аснову вечарыны сапраўды складала паэзія — у выкананні артыста М. Лявончыка прагучалі ўрыўкі з рамана Ніла Гілевіча "Родныя дзеці", вершы, публіцыстычныя творы, прысвечаныя праблеме захавання роднай мовы — менавіта яна і ёсць "любоў прасветлая" паэта. "Маці не памрэ. Маці будзе жыць", — гэтыя словы героя вечарыны, якія ўжо сталі крылатымі, знайшлі сваё пацвярджэнне ў глядацкай масе: сотні маладых людзей захоплена слухалі беларускае паэтычнае слова на працягу ўсяго вечара... Аздабляў вечарыну гук "цымбалікаў звонкіх" Алеся Лявончыка. Гэтаму слыннаму музыку Ніл Гілевіч прысвяціў адзін са сваіх вершаў.

Напрыканцы вечарыны паэт, нягледзячы на кепскае самаадчуванне (эпідэмія грыпу на той час яшчэ не сышла), чытаў свае новыя творы — лірычныя, сатырычныя, па-грамадзянску пафасныя. Гледзячы на тое, як іх успрымала зала, нельга было не ўспомніць словы багдановічаўскага "Апокрыфа": "Жывая яшчэ душа ў народзе гэтым..."

Н. К.

## Цудоўны падарунак

атрымалі юныя чытачы ад выдавецтва "Юнацтва": з'явілася унікальная кніжка "Дзень за днём" — народны каляндар, адрасаваны хлопчыкам і дзяўчынкам. Дзякуючы складальніку Аркадзю Русецкаму, дзеці могуць даведацца шмат цікавага і пазнавальнага не толькі пра кожную пару года, а і пра кожны яго дзень. У першым выпадку зрабіць гэта дапамогуць трапныя народныя выслоўі, у другім — каляндар-месяцаслоў. Гаворыцца тут пра тое, якое свята прыпадае на пэўны дзень і якія абрады трэба выконваць, змешчаны тыя ці іншыя прыкметы надвор'я. Вартасць кнігі яшчэ і ў тым, што яна выдатна аформлена мастаком В. Аляксандравым.

## "Мастацтва", N 2

Як вядома, летась у Гродне прайшоў конкурс юных кампазітараў "Надзея-96". Уражаннямі ад яго дзеляцца адзін з арганізатараў конкурсу, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны В. Радзіёнаў ("На крылах "Надзеі") і педагог з Брэста І. Мокрых ("Конкурс Багдановіча ...без Багдановіча"). Партрэт кампазітара Р. Суруса паўстае з матэрыялу Н. Савалкі "Мы можам шмат чым ганарыцца..."

Змешчаны працяг артыкула М. Крукоўскага "Бацька" ўсяго існага" ("Унутраная структура духоўна-культурнай прасторы і яе катэгарыяльная характарыстыка"), рэцэнзія Т. Катовіч "У дужках жыцця" на спектакль "І паміраючы, дрэвы стаяць" на сцэне Коласаўскага тэатра; заканчэнне артыкула Р. Харытончыка "Драматургічная спадчына Францішка Аляхновіча: спроба сучаснага прачытання", меркаванні мовазнаўцаў і мастакоў, выказаныя на навукова-творчай канферэнцыі "Сучасная акварэль: традыцыі, пошукі, вырашэнне"...

В. Шматаў ("Жывапіс-малітва") знаёміць з дыванамі з чарнобыльскай зоны. М. Яніцкая ("Знаёмы нам лёс") расказвае пра каштоўнасці Гомельскага палаца. Г. Шур выступае з артыкулам "Персанажы ў мастацкай прасторы: Барыс Забораў, Таніна Гуэра і іншыя". Г. Фатыхава ("Вечны пачатак жыцця") прыадкрывае сакрэты творчасці мастака Л. Марчанкі.

"Экранізацыя культуры" — тэма артыкула І. Сідорскай. Працягваючы рубрыку "Народная гульнятэка", М. Козенка апавядае пра такія гульні, як "Бусел", "Жабка", "Салоха". "Гармонія рытмікі ў часе" — досвед А. Законнікавай.

Да 135-годдзя з дня нараджэння А. Багдановіча прапануецца матэрыял М.Ількевіча "Адзіны мой карэспандэнт... стары Адам Багдановіч".

ПАЭЗІЯ

Васіль РАГАЎЦОЎ



# "Наталяюся родным словам..."

### Неяк маці казала...

*На нашу зямельку*
*ды людскія рукі —*
*о, як бы радзіла!*

*На луг сухадолы*
*каб спорныя ліўні —*
*як чай было б сена.*

*На ліпу-сіротку*
*ды клёкат бусліны —*
*хмялела б ад цвету...*

*А людзям няшчасным*
*Хоць каліўца долі —*
*яны б акрыялі.*

●

*З болю*
*нараджаецца спагада,*
*са спагады —*
*дабро.*
*А з дабра выспявае...*
*зайздрасць,*
*з зайздрасці —*
*нянавісць,*
*з нянавісці —*
*бяда...*
*І толькі з нікчэмнасці*
*плодзіцца*
*абыякавасць.*

●

*Згадалася мудрае:*
*блізкае кмеціцца*
*здалёк...*
*Ці не таму*
*і зямля чужаватая нам,*
*што зроду*
*ходзім па ёй?*

●

*Блізкага не шануе*
*і далёкага не прывеціць.*
*І сам між сваіх —*
*чужынец.*
*...Помніцца бацькава:*
*"Што ты — людзям,*
*тое й табе будзе".*

●

*Напіўся туману,*
*нібы сырадою.*
*Схмялеў ад настою*
*мядункі і мяты.*
*Чаму ж на душы*
*так балюча і гойна,*
*як згледзеў агеньчык*
*матулінай хаты?*

●

*"Выйшаў сухім з вады" —*
*так кажуць пра чалавека,*
*які застаўся непакараным.*
*...А мне незабыўна помніцца,*
*як мой бацька, нябожчык,*
*лавіў таптухаю рыбу*
*і выганяў з-пад карчоў*
*"што калоды" лінёў,*
*"што косы" шчупакоў,*
*"нібы лапці" — "вокуняў"...*
*Потым грэўся ля вогнішча*
*пад іскрыстаю наміткай неба*
*і прыгаворваў дрыготкім —*
*ад стыласці — голасам:*
*— Хочаш рыбы налавіць*
*і штаноў не намачыць?*
*Ды пасля — без цяпельца?*
*Без дымка?..*
*Не-е-е, бра-а-це... Нягожа...*
*Не хацеў бы я*
*й рыбы такое...*

●

*Прагну*
*ў вясну*
*разгуканую санлівымі грымотамі;*
*у лета,*
*спавітае жніўнаю песняю;*
*у восень,*
*паланёную лясным рэхам;*
*у зіму,*
*ахутаную завеямі...*
*Бо ў прыродзе,*
*як кажуць у народзе,*
*ні вясны-красны,*
*ні восені-просіні...*

●

*Цыганскі дождж.*
*Шчымлівы пах*

ДЭБЮТ

# Перад дарогай

Юрась Нераток — гэта Юрый Юр'евіч Гарбачоў. Суседам маім ён з'яўляецца даўно — з тых пор, як стаў членам сям'і колішняга дырэктара аднаго з акадэмічных інстытутаў І. Цытовіча, ажаніўшыся з яго дачкой Аняй. Жывем мы ў адным пад'ездзе, ды і дачы ў свой час пабудавалі пад адным дахам.

Пра самога Юру я ведаў, што ён працуе інжынерам, але зусім не падазраваў самага цікавага. Аднойчы яго жонка паведаміла мне, што Юра піша вершы, і запыталася, ці не пачытаў бы я. Ну, вядома ж, як я мог не пацікавіцца імі? І я адкрыў для сябе новага, сапраўднага паэта, які вельмі беражліва адносіцца да розных нюансаў значэння паэтычнага слова, умее думаць мастацкімі вобразамі, якія ў сваю чаргу падпарадкоўваюцца нечаканай думцы, арыгінальнай ідэі, выклікаюць багатыя асацыяцыі. І ў кожным радку бездакорны рытм.

Вершаў у яго сабралася на вялікі том. Але ўсе на рускай мове. Ведаючы, што ён зусім натуральна гаворыць па-беларуску (пазней ён сказаў мне, што маці яго выкладала ў школе беларускую мову, а бацька — рускую), я прапанаваў яму паспрабаваць свае паэтычныя сілы і на мове роднай. Так з'явіліся вершы, якія сёння прапануюцца ўвазе чытачоў "ЛіМа".

Юрый Гарбачоў нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мастоўскім раёне на Гродзеншчыне. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, 5 гадоў працаваў на МАЗе, а сёння — у НВА "Цэнтр", дзе з'яўляецца начальнікам канструктарскага аддзела па выпуску атракцыённай тэхнікі.

Свой псеўданім "Юрась Нераток" ён выбраў у гонар прапрадзедаў па матчынай лініі — скамарохаў, якіх клікалі нераткамі. Так сам аўтар растлумачыў паходжанне таго прозвішча, з якім ён будзе пракладваць свой, зусім самабытны шлях у нашу літаратуру — у паэзію ды і ў прозу таксама. Бо і ў прозе ён паспеў выявіць сваю мастацкую арыгінальнасць.

Пажадаем Юрасю Нератку, каб яго творчыя набыткі і здзяйсненні сталі жаданай з'явай і "мілым гасцём" (як сказаў бы Янка Купала) у асяроддзі аматараў беларускага мастацкага слова.

Уладзімір КАЗБЯРУК

Юрась НЕРАТОК



### Крытыку

*Штось не ідзе радок сягоння першы.*
*Адвык ад мовы — слоўнік пад рукой.*
*Ды ведаю: чакае мае вершы*
*літаратурны хросны бацька мой.*

*Ды ўсё шпарчэй пачалі думкі віцца,*
*спляліся ўсе пачуцці ў цесны рой...*
*Мне будзе чым перад табой хваліцца,*
*літаратурны хросны бацька мой!*

*...Са мною Муза час размовай бавіць,*
*аб чым — пакуль няўцямна ёй самой.*
*Ну, ні бяды! Як што не так — падправіць*
*літаратурны хросны бацька мой.*

### Шпацыр

*Цямнее. Сыра, як у склепе.*
*Няма надзей, што будзе лепей.*
*І вецер цягне, бы ў трубе...*
*Ну што рабіць? — іду сабе!*

*Мне лістапад прастудай грозіць,*
*імжысты дождж схінае позірк.*
*Дрыготкі, слотны сквер маўчыць...*
*Ох, як бы ног не замачыць!*

*А спакваля пачую маты*
*падпітага электарату:*
*"Во, блін, пагода! Як жыццё!.."*

*...Ідзе прырода ў забыццё...*

### Хварэю

*Пасляпрацоўны цёмны час.*
*Упёрлася ў тралейбус нас —*
*лічы, Мамая войска.*
*Дыхнуўшы ў бок мой тым, што піў,*
*мужык спытаў, як цвік забіў:*
*"Я еду ў бок Лагойска?" —*

*"У тым напрамку." —*
*"З працы прэш?*
*І плацяць трохі ў рэшце рэшт?" —*
*"А ну іх! Больш чакаем..." —*
*"А што ж ясі?" —*
*"Ды штосьці ем..." —*
*"А ў цэлым як?" —*
*"Ну як? Жывем.*
*А хто памрэ — хаваем".*

*Відаць, не даспадобы быў*
*яму нудотны мой матыў,*
*і ад жыццёвай прозы*
*зноў збіў мяне знянацку ён*
*на свой экстравагантны тон:*
*"А ты чаму цвярозы?"*

*Ён па-блазноцку падміргнуў*
*і іранічна працягнуў:*
*"Ну, гэта я дурэю!"*
*І, як перад сабой самім,*
*я апраўдаўся перад ім:*
*"Хварэю я, хварэю..."*

### Воз

*Хлапчынкай шпарка крочыў*
*па сцяжынцы.*
*А з боку — лес, з другога — рэчкі плынь.*
*Лёс нёс мяне, як сырадой у крынцы.*
*...То цень дажджу, то небакраю сінь...*

*Ды раптам стала сцежачка дарогай —*
*прасторы многа, свету і цяпла!*
*...Я не дачуў перасцярогі строгай —*
*прагледзеў, што ўгару яна пайшла.*

*...Караскаўся, збіваючы калені,*
*гульню жыцця ўспрымаючы ўсур'ёз!*
*І па дарозе назбіраў камення —*
*імкненняў, клопатаў і звычак — воз.*

*Калі ж з гары прыспеў мой час спускацца,*
*лягчэй не стала — цісне ззаду ён!*
*Не адпусціць яго, не адарвацца —*
*раздавіць, імкнучыся пад адхон!*

*...Ды прыйдзе час мне развітацца*
*з возам.*
*Пад перапевы памяці званоў*
*знямоглым целам прасвятлеўшы розум*
*па зімняй сцежцы панясу я зноў...*

### Скавытанне нацыяналіста

*Мне кажуць, што сягоння свята,*
*што гістарычны гэты год...*
*А я крычу табе зацята:*
*"Ты памыляешся, народ!"*

*Былыя ўспомніўшы грахі,*
*ты скажаш: "То ж быў час такі..."*

*Ляскочуць аб двухмоўі словы —*
*і ты цураешся нібы*

*п'янлівых красак, зёлак.*
*Як аблачынку, на руках*
*нясу цябе, вясёлую.*

*...Плыве чаўнок маладзіка,*
*у ім — князёўна-зорка.*
*І чуе сонная рака:*
*зайграў на ўсходзе золак.*

●

*Расце навальніца...*
*І вуркатаннем грымотаў*
*будзіць*
*санлівы абшар.*

*Расце туманец...*
*І бялёсымі космамі*
*захінае*
*шэрань зямную.*

*Немаўлятка расце...*
*І анёльскай усмешкай*
*атуляе*
*стому матулі.*

●

*У мроіве тваіх вачэй*
*гуляюць вабныя зарніцы...*
*Ці не таму мне так не спіцца,*
*што цягам жнівеньскіх начэй —*
*з маланкай шчодрай — навальніцы?*

●

*Наталяюся родным словам...*
*Яно прарастае ў душы*
*цнатлівою руннёю,*
*спеліцца на вуснах*
*шапатлівым коласам,*
*пераліваецца на іх*
*залатым зернейкам...*
*Наталяюся*
*родным*
*словам...*
*Як прагавітая душа —*
*першацветам.*

*сваёй сялянскай хатняй мовы,*
*што стала сродкам барацьбы.*

*Якое там двухмоўе, годзе!*
*Прадаў ты мову, мой народзе...*

*Ты кажаш: "Лепей разам будзе,*
*саюзна з братняю сям'ёй..."*
*У шматнароднай халабудзе*
*хто, апроч рускіх, родзіч твой?*

*Няўжо парадку ў інтэрнаце*
*больш будзе, чым ва ўласнай хаце?*

*І як жа так, разваж нас, Божа,*
*што самы люты вораг твой*
*той, хто чаўпе табе, што можаш*
*ты жыць сваёю галавой?!*

*На іх нацкованых ОМОНцаў*
*прымаеш ты за абаронцаў....*

*Відаць, традыцыя такая:*
*ты дзелішся спакон вякоў*
*на тых, хто "панскі розум мае",*
*і на "тутэйшых" мужыкоў.*

*Ты ўзяў удзел у барацьбе —*
*пазбавіў голасу сябе...*

*Калі ў сабе ты ўбачыш выйсце*
*і ачмурэння час міне?*
*Ці здолееш ты з багны выйсці?*
*Ці зможаш вольным стаць?.. Ці не?*

*І я пытаю, сцяўшы рот:*
*"Дык ты народ ці не народ?!"*

## Паэт і сняжынка

*Паміж зямлёй і небам снег кружыўся,*
*і вечнай каляінай час ішоў...*
*Ляцела ўніз пушыстая сняжынка*
*з мільёнамі сяброўак і сяброў.*

*Збіралася ў хлюпоце на газоне*
*ў траве між недакуркаў паміраць.*
*Ды заляцела ў цёплыя далоні —*
*і ў іх не захацела раставаць.*

*Паэт, захоплены красой і чысцінёю,*
*Сняжынцы шчыра промні цалаваў,*
*І зоркай называў яе сваёю,*
*і разгарацца ёй дапамагаў.*

*Калі ж запал паэта дзесьці знікнуў,*
*спякотна стала з зоркаю зусім,*
*ён упрыгожыў зоркаю званіцу,*
*каб шчасце і надзею дала ўсім.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*І з ночы ў ноч, і з году ў год, паэту*
*мільгаючы з нябеснай чысціні,*
*халоднай зоркаю зімой і летам*
*плыве яго сняжынка ў вышыні...*

ДЭБЮТ

Сяргей ШАЎЦОЎ

# БАЛЬ-СОЛА ДЛЯ МАРЫІ ІВАНАЎНЫ І СУСЕДА



НАВЕЛА

МАРЫЯ ІВАНАЎНА прачынаецца рана. Прыкладна а пятай гадзіне. Яшчэ не гудуць тралейбусы, а ліфта ў іх доме няма. Пяціпавярховы дом. "Хрушчоба". Раннія пад'ёмы ёй нязручныя. Шмат з'яўляецца думак, проста сказаць, малапрыемных.

"Бог дасць дзень, Бог дасць ежу", — любіла паўтараць маці. Маці даўно няма, ёсць дзень. А ежы няма. Марыя Іванаўна дакладна ведае, што ў скрынцы для хлеба — чацвярцінка, загорнутая ў цэлафан. На акне — палова бутэлькі малака. Гэта ўсё, што яна на сёння мае.

Пенсію чамусьці затрымалі. Дзяўчына на пошце ў тысячны раз стомлена сказала: "Не пералічылі. Не ведаю — чаму". Марыі Іванаўне спадабалася, як яна адказала: нібы з болем, са спачуваннем. "Відаць, нядаўна працуе", — падумала Марыя Іванаўна. Усё роўна яна выходзіла з пошты, а ў куточках вачэй закіпалі слёзы. З паўгадзіны Марыя Іванаўна стаяла на месцы, бо, уласна кажучы, ісці было няма куды, ды і прычын рухацца, хоць улева, хоць управа — таксама. У нейкі момант Марыі Іванаўне падалося: вось упадзе і не ўстане. Гары яно гарам...

На пошце папярэдзілі: "Да Новага года не чакайце".

Марыя Іванаўна меркавала сёння наладзіць невялікі баль. Спадзявалася купіць больш-менш прыстойную костку і бульбы. Запас цыбулі і морквы ўдалося вельмі выгадна зрабіць летам. Суседка папрасіла дапамагчы на дачы і расплацілася гароднінай. Марыя Іванаўна перасыпала моркву пяском, а цыбулю павесіла на кухні.

Такім чынам, баль адмяняўся. Прыйдзецца зноў абмежавацца хлебам і малаком.

У кашальку Марыі Іванаўны было роўна 6250 рублёў.

2.

На фронце Марыя Іванаўна служыла санітаркай. Не ў тыле, на перадавой. Там магло параніць альбо і ўвогуле забіць. Марыю Іванаўну параніла. Франтавых санітараў часта раніла і забівала. Так што Марыя Іванаўна лічыла: пашанцавала. Потым яна так ужо не лічыла — урачы сказалі, што яна не можа быць маці, і прысвоілі ёй групу інваліднасці. Да 1965 года Марыя Іванаўна атрымлівала 16 рублёў 54 капейкі пенсіі.

Радзіма яе ацаніла.

За сцяной нешта бразнула, пачулася мармытанне, нехта здзіўлена вылаяўся. Гэта прачнуўся сусед Марыі Іванаўны — алкаголік Сініцын. Цяпер ён будзе блукаць па кватэры гадзін да васьмі: шукаць, дзе што засталося. Не знойдзе — роўна ў восем пацягнецца да магазіна, "на вахту". Сініцын таксама пенсіянер. Яго ўсё жыццё гналі з усіх работ, аднак пенсія ў яго ўтрая большая, чым у Марыі Іванаўны. Яна, праўда, не крыўдуе.

Марыя Іванаўна ніколі і ні на каго не крыўдуе.

Заўзятая камсамолка ў юнацтве, зараз яна паверыла ў Бога. Аднойчы задумалася і прыйшла да высновы: а ў што верыць яшчэ?

Учора яна вяла алкаголіка Сініцына дахаты — той любіў і летам, і зімою спаць пад прыватнымі гаражамі.

— Іванаўна! — п'яна крычаў Сініцын. — Божы ты мой чалавек! Як мне цябе шкада! Слухай, ідзі жабраваць... Хлопцы казалі... Не, без балды... Я табе кажу... Во якія "бабкі" будзеш мець...

Пенсія ў Марыі Іванаўны была зараз 370 тысяч.

Да Новага года заставалася два дні.

3.

Усю ноч Марыя Іванаўна плакала і думала. Без усякае прычыны яна прыгадала жанчыну ў магазіне. Марыя Іванаўна стаяла і глядзела на свежанькіх такіх курэй. Гэтая жанчына падышла і нешта сунула ў рукі. Марыя Іванаўна машынальна ўзяла. Гэта была 5-тысячная купюра. Колькі ні бегала потым па магазіне Марыя Іванаўна — жанчыны не знайшла.

Назаўтра яна пайшла ў царкву і паставіла свечкі за сваё здароўе, той жанчыны і за спакой душы раба Божага Вані з разанскай вёскі Бярозаўка, якога любіла, ды недалюбіла. Забіла Ваню. Забіла ў тым жа баі, дзе параніла Марыю Іванаўну. Іх і паклалі ў адзін рад, думалі, і санітарка нежывая — пахавальная каманда была на добрым падпітку, занятак невясёлы — трупы збіраць...

Ранкам Марыя Іванаўна рашылася. Яна зняла са сцяны дзве свае фатаграфіі ваенных гадоў: 42-га і 43-га, а 45-ы яна сустрэла ў шпіталі — зноў параніла. Здымацца пасаромелася — у 20 год думаеш не так, як у 60. Фатаграфіі яна наклеіла на вокладкі старых кніжак, а між імі начапіла свае медалі. Тут былі "За адвагу", "За абарону Сталінграда", "За перамогу над Германіяй". Юбілейныя пасляваенныя медалі яна чапляць не стала.

Доўга думала, як апрануцца. Можна было ўзяць ватоўку. Але Марыя Іванаўна не стала. Апранула паліто, тым больш, нічога іншага і не было.

4.

У метро быў моцны скразняк. Хлопцы прадавалі газеты, кніжкі, касеты, дзяўчаты — кветкі. Нічога гэтага, праўда, Марыя Іванаўна не заўважала. Яе нібы прыклеілі да аднаго месца. Ні нагой, ні рукой варухнуць не магла, а вочы — уніз. Напэўна, выгляд быў адпаведны. Нейкі мужчына мімаходзь сунуў ёй тысячу. Марыя Іванаўна неяк не ўцяміла, што стаіць з працягнутай рукой.

Гэта ацверазіла. "Што ж так стаяць", — падумала. Папрасіла ў жвавых хлопцаў скрынку. Села. Выставіла сваю "гісторыю". Хто даваў, хто ішоў так сабе.

Вельмі здзівіў дрэнна паголены ўсходні чалавек:

— Ай, мат, мат, што ты здэс сыдыш? Ай, вах... — і даў ажно дваццаць тысяч.

Доўга стаяла нейкая жанчына ў старой, зашмальцаванай вопратцы. Усё глядзела на Марыю Іванаўну, глядзела. Бачна, вочы блішчэлі. Падышла.

— Наце, цётачка... Прабачце, больш не маю...

І дала пяцьсот рублёў. І пайшла хутчэй, хутчэй, а хударлявыя плечы, ясна было відаць, дробна-дробна трэсліся. Хто такая? Бог ведае. Ідзі — спытай.

Пяцьсот рублёў Марыя Іванаўна паклала асобна. Яна іх вырашыла аднесці ў царкву. Там ёсць такая скрыначка: "На аднаўленне храма".

А быў п'яны дзядзька, крычаў на ўвесь пераход: "Камунякі! Юды! Фашысты! Да чаго народ давялі! Гады! Праклён вам! Чуеце?!"

Дзядзька трос пачкам грошай, але Марыі Іванаўне нічога не даў. Відаць, забыў. "Камунякі" яго не пачулі. Прыйшлі два міліцыянеры і павялі дзядзьку з сабою. Ён плакаў, і Марыі Іванаўне было яго шкада. Адзін міліцыянер сказаў ёй, адводзячы вочы: "Ты б, цётка, шыбавала адсюль".

"І праўду кажа, — падумала Марыя Іванаўна. — Пайду ўжо".

Падлік грошай дома моцна яе ўразіў: аказалася — амаль 90 тысяч. "Вось табе на, — разгублена думала Марыя Іванаўна. — А колькі я там сядзела? Амаль трэцяя частка пенсіі... Ну, Новы год сустрэну, мо і на Ражство застанецца... Ды і пенсію дадуць".

Новы год Марыя Іванаўна сустрэла. Зрабіла вінегрэт, засмажыла курыцу — "гуляць дык гуляць!", — адкрыла слоік агуркоў, што дала тая ж суседка, жанчына таксама адзінокая і набожная. З далёкай схованкі дастала Марыя Іванаўна бутэлечку "Кагору", там яшчэ заставалася палова. Стол атрымаўся.

Потым Марыя Іванаўна ўключыла старэнькі свой "Рэкорд", выпіла кілішак, крыху і ап'янела, паплакала, прыгадала Ваню (як яны аднойчы цэлы дзень прасядзелі ў адным акопе — ні наступленняў, ні адступленняў не намячалася — і Ваня ёй усё пра сябе расказаў, а яна — пра сябе, і ён яе пацалаваў, сціплы быў, сялянскі хлопец, усё аб нечым думаў сумна, а ў акопе нікога не было і тут табе воля вольная).

А роўна праз тыдзень Ваню забіла, проста трапіла куля ў чысты Ванеў лоб, а Марыя Іванаўна цягнула ў гэты час з пазіцыі пажылога байца — яму перабіла ногі — вось і яе тут прыхапіла дурной куляй... А потым у шпіталь нейкім цудам прыйшоў трохкутнічак, стрыечны брат пісаў: "Усю тваю сям'ю, Маня, спалілі немцы. І маю таксама. Засталіся мы з табою, Маня, горкія сіроты..."

Аб гэтым думала ў навагодні вечар Марыя Іванаўна, ці не — гісторыя дакладных звестак не дае. Можа, яна проста глядзела тэлевізар.

А старэнькі чорна-белы "Рэкорд" паказваў бліскучую ёлку, прыгожых мужчын і жанчын, прыгожа і модна апранутых, яны прыгожа, як належыць — маленькімі глыточкамі — пілі шампанскае, хвалілі адзін аднаго, хвалілі сябе, шмат і лёгка цалаваліся, нешта разыгрывалі, смяяліся і самі сабе вельмі падабаліся — гэта было бачна.

Потым на экране ўзнікла зусім ужо прыгожая дзяўчына і сказала: "Прыгатую сёння ялавічыну з кітайскім соусам "анкл-бэнкс". Яшчэ паказалі партрэт чорнага дзядзькі і Марыя Іванаўна падумала, што гэта і ёсць Анкл Бэнкс, мужчына ёй невядомы, але, відаць, заслужаны, калі яго паказваюць па тэлевізары.

Паказвалі яшчэ шмат іншага. Нейкі чалавек за кадрам крычаў: "Да ўвагі знаўцаў! Пытанне тэлегледача з Рыбінска!.." Потым стала ціха, узнік мардаты дзядзька з калматымі брывамі, Марыя Іванаўна пазнала Ельцына.

— Ат, і Новы год, відаць? — услых спытала Марыя Іванаўна. Пастукала ў сцяну патэльняй (так яны перастукваліся з суседам) — Сініцын, ці ты ўжо пад сталом? Ідзі, павіншуемся! Га? Відаць, павіншаваўся... Пайду і я.

І Марыя Іванаўна пайшла спаць. Заснула яна лёгка і нічога не сніла...

пачынаецца багаслоўе, там канчаецца Бог. Яшчэ Мантэнь заўважыў, што каменю, убудаванаму ў храм, нічога не дадзена ведаць пра сам храм".

Патлумачу. У год Шастаковіча і віцебскі фестываль меў адпаведнае тэматычнае адценне — у канцэртнай частцы, у традыцыйных навуковых чытаннях. Зрэшты, без гэтага вялікага імя немагчыма было сабе ўявіць і ўсе ранейшыя музычныя імпрэзы. Бо штораз прыгадваючы нашага вялікага земляка, чыёй памяці гэтыя імпрэзы і прысвячаюцца, дзеячы мастацтва, навукоўцы, педагогі неаднойчы гаварылі пра даўнюю спакроўленасць музычнага жыцця Віцебска і Пецярбурга, пра вялікае сяброўства двух геніяў — Івана Іванавіча Салярцінскага і Дзмітрыя Дзмітрыевіча Шастаковіча.

Дык вось, ужо не ўпершыню завітаў на фестываль прафесар Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі кампазітар Барыс Іванавіч Цішчанка, вучань Шастаковіча. І яму выпаў гонар першым выступіць перад шматлюднай аўдыторыяй навуковых чытанняў. І гаварыў ён пра Шастаковіча "з пазіцый усвядомленай слепаты".

Ён абураўся інтэрв'юерамі, якія дакучаюць пытаннямі пра стасункі Дзмітрыя Дзмітрыевіча з савецкай уладай, не ведаючы і нават не цікавячыся колькі, напрыклад, квартэтаў той напісаў.

Ён прызнаўся, што да 87-га года лічыўся "невыязным", але не надта праз тое пакутаваў, бо "седзячы дома, больш працуеш, а за мяжою аддаеш час лупавоцтву ды віславухасці". Пачаўшы ездзіць, перакануўся, што ідыятызм — з'явішча не мясцовага, а сусветнага маштабу: калі "тут" ганілі Шастаковіча "савецкага", дык "там" — "антысавецкага". І ніхто не абцяжарваў сябе працай спасцігаць яго як з'яву — нават у нейкім сэнсе геаметрычную, як своеасаблівую піраміду, што зверху падаецца квадратам, збоку — трохкутнікам...

Актрыса Фаіна Ранеўская амаль рытарычна запыталася некалі ў Барыса Цішчанкі пра Шастаковіча: "Ён сапраўды — боскага паходжання?" І калі бываюць рытарычныя адказы, дык менавіта яго праз многія гады пачулі ўжо тыя, хто прысутнічаў у Віцебскай музычнай гасцёўні.

Прафесар Цішчанка разважаў пра месіянскую ролю Шастаковіча ў нашым жыцці і ў жыцці будучых пакаленняў. Калі з'явіўся на зямлі той, каго называюць Месіяй? Калі пачалося разбурэнне антычнай культуры. З'явіўся, пачаў прапаведваць, і гэта ўратавала свет на 2 тысячы гадоў. З часоў Вялікай французскай рэвалюцыі пачаліся "шкодніцтвы" энцыклапедыстаў, ваяўнічага, плоскага, ашалелага матэрыялізму ды атэізму.

Бах жыў у адносна спрыяльны для творчасці час, час, калі асабістае супадала з неабходным грамадству, калі не было ўжо сярэднявечнай схаластыкі, абскурантызму, але не было і ваяўнічага наступлення матэрыялізму.

Шастаковіч ствараў на жэрале вулкана. І пры гэтым гаварыў, што музыка не здатная ўваскрэсіць загінуўшых, аднавіць разбураныя вайной дамы, але яна можа зрабіць так, што многія людзі застануцца жывыя, а дамы — цэлыя.

На пачатку нашага стагоддзя многія звышчулліваья людзі абвяшчалі сябе ці пачуваліся месіямі. А вось такая з'ява, як Леў Талстой. Калі мужык абвяшчаў сябе графам, яго хвалілі ў вар'яцкі дом. Калі наадварот — гэта значыла, што з'явіўся месія, і да яго скіроўвалася чарга. Талстой, які браў пад сваю абарону тэрарыстаў, забойцаў, адкрыў дарогу тым "бесам", накont якіх папярэджваў Дастаеўскі.

А Шастаковіч тым "бесам" дарогу перакрыў. Сваёй прысутнасцю ў гэтым свеце зрабіў тое, што Зямля не выбухнула, як звышновая зорка, ад перанасычэння атмасферы адмоўнай энергіяй. Атамная катастрофа была спынена, можа, якраз таму, што Бог вызначыў для гэтага музыканта ролю выратавальніка чалавецтва.

Чатыры цвікі ў роскрыж Хрыста — гэта вельмі страшна.

Тры інфаркты, рак ды шматлікія пакуты звышдатклівага Шастаковіча — страшна. Гэты чалавек хвараўіта перажываў за ўсё чалавецтва. Звышчуллівы, як мімоза, безабаронны, як дзіця, ён і не выходзіў са стрэсу. Усведамляючы сваю адзінкавасць, ён усведамляў і сваю прыналежнасць да ўсіх. З дзіўнага скрыжавання двух гэтых супрацьлеглых варыянтаў самасвядомасці і складвалася асоба Шастаковіча: усе — і я.

Ён ведаў цану хуткаплыннага зямнога жыцця, любіў жыццё, даражыў кожнай жывой істотай, валодаў феменальнай памяццю, гіганцкім аб'ёмам ведаў і ўяўленняў пра будову свету.

Мо таму ягоная музыка ўспрымаецца як мова, найбольш блізкая да выказвання вечных ісцін? Мо таму гэты дзіўны творца-альтруіст працягвае сваё зямное жыццё ў гучанні непаўторных мастацкіх шэдэўраў, цікавасць да якіх у свеце робіцца ўсё больш сур'ёзнай і шырокай, змяніўшы няшчырасць колішняй звычайнай моды?

Яго апошняя сюіта на вершы Мікеланджэла называецца "Неўміручасць". І апошняя частка гэтай сюіты грунтуецца на мелодыі, якую Дзмітрый Шастаковіч прыдумаў... у адзінаццацігадовым узросце.

●

Вось такія "варыяцыі на тэму прафесара Цішчанкі" атрымаліся ў мяне. І каб не стамляць чытача новымі порцыямі варыяцый на тэмы фестывалю, паспрабую хутчэй наблізіцца да фінальнай кропкі ў сваіх занатоўках. Як бы гэта лацвей зрабіць? Можа, праз... шкадаванне?

Так, шкадую: ужо не выпадае распавесці, ад чаго такімі пульхнымі зрабіліся мае падарожныя блакноты (вы, дарэчы, не заўважалі, што ад спісаных старонак нататнікі ямчэюць удвая?). Мо будзе некалі нагода перагарнуць іх і прыгадаць, які цудоўны вакальны вечар наладзілі для віцьбічаў кампазітар Барыс Цішчанка ды спявачка Марына Садзіна. Якія выбітныя інструментальныя трыо з Пецярбурга выступілі на фестывалі. Як захапілі публіку талентам акцёрскага пераўвасаблення беларускія вакалісты, калі пасля рытуальных планктаў далі канцэрт зусім іншага кшталту — з рознахарактарных, вострахарактарных, па-тэатральнаму жанравых твораў Шастаковіча.

Мо будзе некалі нагода зазірнуць у "канспект" навуковых чытанняў, дзе сярод ужо досыць добра засвоеных звестак пра віцебскі рэнесанс 20-ых, пра Салярцінскага, ягоную дзейнасць і кола інтарэсаў штораз прагучыць і малавядомы факт, і трапнае выслоўе, і палемічная высnова.

А што ў "канспекце" тым? Словы, словы... Музыказнаўцы Надзеі Бунцэвіч — пра супрацоўніцтва Шастаковіча з кінарэжысёрам Рыгорам Козінцавым; мастацкага кіраўніка "Беларускай Капэлы" Віктара Скорабагатава — пра рамансы Антона Абрамовіча на вершы Яна Баршчэўскага; спадарыні Дадзіёмавай — пра беларуска-рускія музычныя сувязі XVII—XVIII стагоддзяў, прафесара БУКа Энгельса Дарашэвіча — пра культурную сітуацыю на Беларусі... Заўсёды прыемна слухаць гасцей. Сярод іх былі даследчык творчасці піяністкі Марыі Юдзінай масквіч Анатоль Кузняцоў і пляменнік нашай знакамітай зямлячкі, маскоўскі кінарэжысёр Якаў Назараў, пецярбуржцы Дзмітрый Іванавіч Салярцінскі ды Дзмітрый Усеваладавіч Фрэдэрыкс, пляменнік Шастаковіча.

Ледзь не паспачаўся з Дзмітрыем Усеваладавічам. У прыватнай гутарцы. Уражаная тым, як глыбока вядомы яго радавод па бацькавай лініі (галандзец Фрэдэрыкс трапіў у Расію разам з войскам Карла XII, род меў баронскі тытул; дзед Дзмітрыя Усеваладавіча быў губернатарам Ніжняга Ноўгарада, стрыечны дзедаў брат — міністрам царскага двара; бацька, выдатны фізік, быў жанаты з Марыяй Дзмітрыеўнай Шастаковіч, быў рэпрэсаваны, загінуў у 44-м у зняволенні), — пацікавілася, ці можа наш госць (дарэчы, як і ягоны бацька, — выдатны фізік), распавесці гэтаксама падрабязна пра род Шастаковічаў. Адказ пачула досыць сціплы: Дзмітрый Баляслававіч Шастаковіч, бацька кампазітара, прыехаў з Сібіры ў Пецярбург, быў студэнтам тэхналагічнага інстытута, потым супрацоўнічаў з Мендзялеевым і г.д. А ці гаварылі ў сям'і пра тое, кім быў наш зямляк, той Шастаковіч, паўстанец з Віленскага краю, якога за палітычную ненадзейнасць саслалі ў Сібір? Гаварылася толькі пра тое, што бацька Дзмітрыя Дзмітрыевіча быў з палякаў...

Ніякавата дакучаць сваімі сумненнямі шаноўнаму і абаяльнаму госцю з гэткім няўлоўна-шастаковічаўскім абрысам твару. І ўсё ж... І ўсё ж, здаецца, мае "нібыта аргументы" на карысць ліцвінскага-беларускага паходжання знанага сёння ва ўсім свеце прозвішча, накont менталітэта г. зв. "касцельных палякаў" Дзмітрый Усеваладавіч да ўвагі прыняў. Паабяцаў пры нагодзе пацікавіцца ў Іркуцкім архіве, заўважыўшы, што там, у Іркуцку, прозвішча Шастаковіч досыць распаўсюджанае. І калі што — пошта дапаможа нам...

Мо і не варта чакаць, быццам бы нехта з сібірскіх Шастаковічаў прызнаецца ў сваёй беларускасці. Проста хацелася б дазнацца як мага больш. Бо далёка не ўсё аднаeasнача было ў гісторыі самой фаміліі, у менталітэце яе прадстаўнікоў, — можна не сумнявацца.

Цікава, чаму менавіта ў музычным мастацтве столькі прыкладаў таго, **які гістарычны лёс** чакаў таленавітых ураджэнцаў Беларусі разам з іх творчасцю?

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. МАЦЮША*

ВІНШУЕМ!

# Ролі, якія не абмінеш

## НАРОДНАМУ АРТЫСТУ СССР ФЁДАРУ ШМАКАВУ — 80



*"Рэвізор"*



*"Мяшчане"*

Шлях народнага артыста да тэатра палягаў з заводскай самадзейнасці. Бацька Фёдара, "рабочая жылка", марыў бачыць свайго нашчадка "ў навуцы". Але ж сын, папрацаваўшы слесарам на адным з падмаскоўных заводаў, паехаў у Ленінград (тут ён, дарэчы, і нарадзіўся 1 сакавіка 1917 года), дзе нечакана для ўсіх паступіў вучыцца ў тэатральны інстытут, на курс самога Васіля Мяркур'ева, з ягоных рук, так бы мовіць, і выйшаў. У Беларусь. Паступіў акцёрам у трупу Магілёўскага рускага драматычнага тэатра БССР, якім кіраваў Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў. Звярнуў на сябе ўвагу яркай індывідуальнасцю, шырынёй творчага дыяпазону. Смела браўся за ролі рознага плана: ад Важаватава ў "Беспасажніцы" Астроўскага і Аргона ў "Прытворным хворым" Мальера, да Віктара ў "Казцы" М. Святлова.

У чэрвені 1941 года тэатр выправіўся на гастролі ў Беласток, дзе артыстаў і заспела вайна. Трупа была расфармавана, і Фёдару давялося самастойна прабірацца ў Віцебск, каб трапіць у трупу БДТ-2 (колішняя назва славутага коласаўскага калектыву). Неўзабаве і віцебскі тэатр "становіцца на колы": выпраўляецца ў эвакуацыю, у далёкі горад Уральск. Потым былі чатыры месяцы ў франтавой брыгадзе, сфармаванай з артыстаў-коласаўцаў. Фёдар Шмакаў там аказаўся самым маладым. Іх брыгада абслугоўвала І-ы Беларускі фронт. У дзень давалі па 5-6 выступленняў, нярэдка на перадавой. Але ж якраз тады, на вайне, прызнаецца Фёдар Іванавіч, ён добра ўсвядоміў, як неабходна мастацтва чалавеку.

Яшчэ Віцебск ляжаў у руінах, а коласаўскі тэатр ужо даваў першыя прадстаўленні ў будынку былога клуба металістаў. Сярод іншых вялікім поспехам у гледача таго пакалення карысталіся спектаклі з удзелам маладых Фёдара Шмакава і Зінаіды Канапелькі "Фронт" Аляксандра Карнейчука, "Алазанская даліна" Іосіфа Дорскага, "Пяюць жаваранкі" Кандрата Крапівы, "Бітва ў дарозе" Галіны Ніколаевай, "Лес", "Праўда добра, а шчасце лепш" А. Астроўскага...

Артыст валодаў рэдкім сцэнічным абаяннем, шчырасцю, умеў прыцягнуць гледача да працэсу мыслення і перажыванняў героя. Для мастацтва Шмакава і ў далёкія 40-я — 50-я, і ў больш познія 60-я — 80-я гады былі ўласцівыя паглыбленая псіхалагічная характарыстыка вобразаў, лаканізм і прастата ў спалучэнні з яркімі, тэатральна выразнымі фарбамі. Асабліва тонка ён мог даследаваць багаты ўнутраны свет сваіх сучаснікаў. Прыгадайма яго Андрэя Лабанава ў інсцэніроўцы рамана Д. Граніна "Шукальнікі", Сяргея з "Іркуцкай гісторыі" А. Арбузава, настаўніка Гаворку з "Выгнання блудніцы", дырэктара школы Лемяшэвіча з "Крыніц", хірурга Яраша з "Сэрца на далоні", камуніста Антанюка са "Снежных зім" Івана Шамякіна, Малахава з "Апошняй інстанцыі" М. Матукоўскага, Кузьміча з камедыі А. Петрашкевіча "Укралі кодэкс"... Вобраз апошняга стаў у спектаклі прамежкавым звяном паміж чалавечай справядлівасцю і маральным падзеннем асобы. Праз складаныя, часам драматычныя лабірынты праводзілі акцёр і драматург свайго героя.

У "Хуткіх цягніках" А. Паповай Фёдар Шмакаў выканаў цэнтральную ролю буйнога вучонага-меліяратара Чарапанава: уласная дзейнасць раптам паўстала перад ім як трагічная памылка. Там, дзе ён у юнацтве асушаў балоты, цяпер пачалі ўрашаць зямлю. Прырода, аказваецца, жорстка помсціць за сябе... Шмакаў стварыў характар буйны, трагічны, надломлены, далікатна спавядаючы стылістыку спектакля як спектакля-роздуму, спектакля-настрою.

Сатырычная завостранасць, дакладны сцэнічны малюнак уласцівы створаным ім адмоўным персанажам: гэта Салавейчык у "Амністыі" М. Матукоўскага, Грушэўскі ("Блытаныя сцежкі" К. Крапівы), Альховік ("Трывога" А. Петрашкевіча), Разаеў ("Стары дом" А. Казанцава), Мураўёў ("Кастусь Каліноўскі" У. Караткевіча)... Каржакаватая, крумкачая пастава і маленькая, быццам сабачая, галоўка паміж вялікіх залатых эпалетаў — "слуга цару, салдатам бацька: Мураўёва Фёдар Шмакаў сыграў разумным і свядомым здраднікам. Некалі ў яго была ідэя, ён прадаў яе і пайшоў у рабства да ўлады. Розум яго бясплодны, сіла раўнадушная, жарсць абыякавая...

Выкананне ролі Бессяменава ў горкаўскіх "Мяшчанах" не проста акцёрская ўдача — выдатнае дасягненне вядомага майстра беларускай сцэны. Па сваёй прыродзе гэтая энергічная натура — "грамадзянін у нулявой ступені" Васіль Бессяменаў — фанатычна адданы адной фанатычнай ідэі: непарушнасці строгага парадку рэчаў. Паняцце дома вырастае ў яго свядомасці да касмічных маштабаў. Народны артыст Фёдар Шмакаў стварае ў спектаклі (рэжысёр А. Дольнікаў) асабліва поле напружання. Пры яго з'яўленні на сцэне дзеянне адразу ж набывала вострую дынаміку. Кульмінацыяй спектакля з'яўлялася сцэна ўходу Ніла з бессяменаўскага дома...

Сярод вобразаў класічнага рэпертуару можна вылучыць і Акіма з "Улады цемры" Л.Талстога, і Прысыпкіна з "Клапа" У. Маякоўскага, і Мурамскага з "Вяселля Крачынскага" Сухаво-Кабыліна, і Берлі з "Марыі Сцюарт" Шылера, і Гараднічага з "Рэвізора" М. Гогаля. Дзівосна, але факт: артыст адметна пачуваўся ў эклектычнай эрынскай фантасмагорыі! Хітрасць, прыстасавальніцтва, адчуванне сваёй поўнай беспакаранасці — усе гэтыя агідныя чалавечыя якасці выдатна раскрываў Фёдар Іванавіч у хрэстаматыйным класічным вобразе Скваזніка-Дмуханоўскага, адбітка мікалаеўскай эпохі.

Ёсць яшчэ адна роля, якую нельга абмінуць, нягледзячы, што пра яе напісана няма старонак у розных падручніках і манаграфіях. Кажу пра знакамітага шмакаўскага Несцерку. Гэтая роля з'яўляецца і для самога Фёдара Іванавіча самай любімай. Магчыма, таму, што была прынята ім у спадчыну ад знакамітага карыфея беларускай сцэны Аляксандра Канстанцінавіча Ільінскага.

Фёдар Іванавіч Шмакаў на працягу ўсёй сваёй творчай біяграфіі не абмяжоўваўся толькі акцёрскай творчасцю. Даволі значныя яго здабыткі і ў галіне рэжысуры. Ім пастаўлены спектаклі "Шануй бацьку свайго" В.Лаўрэнцьева, "Бацькаўшчына" К.Чорнага, "Трывога" А. Петрашкевіча, "Зберажы маю тайну" В. Сабко, "17 імгненняў вясны" Ю. Сямёнава, "Р.В.С." А. Гайдара, "Мудрамер" М. Матукоўскага,"Блэз" К. Маньэ.

Дастаткова вядомы ён і як кінаакцёр. Знялся ў фільмах "Узнятая цаліна", "Бессмяротная песня", "Анюціна дарога", "Міргарад і яго жыхары", "Качубей", "Балтыйскае неба", "Доўгія вёрсты вайны", "Мужнасць", "Першыя выпрабаванні", "Людзі на балоце" і іншых.

Нягледзячы на паважны ўзрост, Фёдар Іванавіч актыўна заняты ў бягучым коласаўскім рэпертуары: прыгадаем яго Панкраса ў "Здурнелым Журдэне" М. Булгакава альбо Бальбоа з меладрамы А. Касоны "І паміраючы, дрэвы стаяць". Да свайго бенефісу, які адбыўся на коласаўскай сцэне 1 сакавіка ў дзень 80-годдзя артыста, Фёдар Іванавіч падрыхтаваў "Лебядзіны спеў". Такая шчыльнасць, такая занятасць — ці ж не роскіт творчых сіл?..

**Юрась ІВАНОЎСКІ**

*Фота С. КОХАНА*

*г. Віцебск*

## Свой след у літаратуры

**11 сакавіка споўнілася б 75 гадоў Міколу Гамолку. Пайшоў Мікола Іванавіч з жыцця 3 мая 1992 года. Пачынаў творчы шлях з паэзіі — у 1937 годзе ў бабруйскай газеце "Камуніст" выступіў з першым вершам. Выдаў некалькі кніг паэзіі, але большага поспеху дасягнуў у прозе. Яго творы ў асноўным адрасаваны дзецям. Гэта аповесці "Лета ў Калінаўцы", "Добры дзень, школа!", "За вялікую трасу", "Лясная крэпасць", "Сокалы-сакаляты", "Партызанскія сёстры" і іншыя. М. Гамолка стаў адным з пачынальнікаў жанру фантастыкі ў беларускай літаратуры (раман "Шосты акіян"). Лепшыя творы пісьменніка прадстаўлены ў двухтомніку, выпушчаным у 1982—1983 гадах. М. Гамолка напісаў таксама п'есу "Бітва ў космасе", што была пастаўлена ў 1963 годзе, пераклаў на беларускую мову п'есу-казку Я. Шварца "Чырвоная шапачка", якая набыла сцэнічнае жыццё ў 1967 годзе.**

## І з "ЛіМам" звязаў лёс

**Ілья Клаз у 1956—1966 гадах загадваў у "Літаратуры і мастацтве" аддзелам інфармацыі. А свой творчы шлях пачаў у 1940 годзе з верша, апублікаванага ў тагачаснай газеце "Сталинская молодежь". Пісаў на рускай і беларускай мовах. Па-руску выйшлі аповесці "Жарцы" (1955), "Подснежники" (1958), "Вор" (1960), "Разбег" (1961), "Заря вишнёвая" (1973), раман "Белая Русь" (1977) і зборнік нарысаў "Потомству в пример" (1978), па-беларуску — некалькі зборнікаў нарысаў. У гэтыя дні Ілью Сямёнавічу споўнілася б 75 гадоў (памёр І. Клаз 22 снежня 1980 года).**

## Вечар з сюрпрызам

**У вялікую залу Акадэміі музыкі завіталі... майстры мінулага стагоддзя: 5 сакавіка тут гучалі творы Ф. Шапэна, Р. Шумана, І. Брамса. Гэта быў канцэрт класа дацэнта кафедры фартэпіяна Веры Лагвіненкі.**

**Цудоўная традыцыя праводзіць канцэрты класаў у Акадэміі дае студэнтам магчымасць прадэманстраваць свае поспехі, пачуць выступленні сваіх сяброў, апрабаваць сябе на сцэне вялікай залы, рыхтуючыся да сур'ёзных канцэртаў, экзаменацыйных выступленняў.**

**Канцэрт пачалі студэнткі 2 курса. У выкананні Вольгі Малявінай пранікнёна, удумліва прагучалі До мінорны накцюрн і Балада N 2 Ф. Шапэна. Фантазія Фа мінор Ф. Шапэна ў выкананні Вікторыі Юдовіч стварыла атмасферу рамантычнага настрою. Надзвычайна маштабную і складаную для выканання Фантазію До мажор Р. Шумана з поспехам увасобіла Марына Гарачова. У другім аддзяленні Паліна Сапажкова, студэнтка 5 курса, прапанавала слухачам цудоўную музыку "Лясных сцэн" Р. Шумана. Сапраўдным сюрпрызам стаўся Рэ мінорны Канцэрт І. Брамса ў выкананні Крысціны Кандратовіч і заслужанага артыста Беларусі прафесара Ігара Алоўнікава.**

**Таццяна ЛАПКО**

## Майстар



**Імя Веры Салдатавай з вёскі Зазер'е Пухавіцкага раёна ў шэрагу майстроў народнай творчасці займае, бясспрэчна, асаблівае месца. Свегчаннем таму яе незвычайныя і зусім нетрадыцыйныя вырабы.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, кар. БЕЛТА**

ВІНШУЕМ!

# Марку СМАГАРОВІЧУ — 70



Марк Смагаровіч — чалавек мужнага лёсу. У час Вялікай Айчыннай вайны падлеткам пайшоў у партызанскі атрад. Бацькі яго загінулі ў канцлагеры, а сам у 1944 годзе быў цяжка паранены, лячыўся ў шпіталі, знаходзіўся ў доме інвалідаў. Сілы выстаяць давала і любоў да літаратуры, паэзіі. Літаратурнай працай займаецца з 1949 года. За гэты час выдаў нямала кніг — "Мой таварыш" (1955), "На крыллях песні" (1958), "Маё выступленне" (1961), "Пачастунак" (1963), "Крокі" (1966), "Бляск крышталю" (1983) і іншыя. Піша М. Смагаровіч і для дзяцей, якім таксама прысвяціў некалькі зборнікаў. Як сатырык, гумарыст, прадстаўлены ў калектыўнай кнізе "Са свайго пункту гледжання" (1966).

Віншуем Марка Станіслававіча з юбілеем і прапануем увазе чытачоў яго новыя творы!

Марк СМАГАРОВІЧ

### Наказ

*Дзед не кідаў на вецер слова.*
*Я быў яшчэ зусім дзіця:*
*"Ты дажывеш абавязкова,*
*Унук, да райскага жыцця!"*

*Быў школьнікам, быў піянерам,*
*Быў свінапасам-пастушком*
*І быў амаль што кавалерам,*
*І ўжо не зваў дзіваком.*

*Ды хлынула на нас навала,*
*Пажар палаў на паўзямлі.*
*Вайна ў агні нас гартавала.*
*Мы выжылі, перамаглі.*

*Даўно адноўленыя сёлы,*
*З руін узняты гарады.*
*Чамусь народ наш невясёлы,*
*Хоць многа і сплыло вады.*

*І вось кажу я свайму ўнуку:*
*— Ты не глядзі за небакрай!*
*Працуй, грызі сваю навуку,*
*Наперадзе — жыццёвы рай!*

### Шэры дзень

*Бацькі чакалі вартай змены,*
*Што збудуцца іх мары-сны...*
*Не ў ВНУ, а ў бізнесмены*
*Рванулі дочкі і сыны.*

*Святая праўда вочы рэжа,*
*Такое і раней было,*
*Дабро не ў горад, а ў замежжа*
*Збывае выгадна сяло.*

*Дзіўлюся, гледзячы ў прастору,*
*Я ж не зусім яшчэ аслеп,*
*Нібы буйныя мухаморы,*
*Растуць катэджы, а не хлеб.*

*Я не магу хваліцца сілай.*
*Я не паток, а ўжо струмень.*
*Па нашай Бацькаўшчыне мілай*
*Паўзе павольна шэры дзень.*

### Пажаданне

*Хай будзе ў нас абавязкова*
*Акрайчык хлеба на стале,*
*Хай расцвітае наша мова*
*У горадзе і на сяле.*

*Душою новы час вітаю!*
*Я не такі пужлівы трус.*
*А хто такі я — сам не знаю:*
*Паляк ці рускі беларус?*

*Наш кожны звычай, быццам цуда,*
*Бярэ з глыбінь вякоў выток.*
*І крыўдна: нейкі Шэйк-прыблуда*
*Загнаў Лявоніху ў куток.*

### У гастраноме

*Хаджу ў "Сталічны" гастраном.*
*Я ад яго жыву тут блізка.*
*Прадуктаў хопіць на ўвесь дом,*
*І для ўсяго, напэўна, Мінска.*

*Каўбасы, чорная ікра,*
*Бляск селядцоў, нібы са сталі...*
*І крыкнуць хочацца — ура!*
*Амаль Амерыку дагналі!*

*Узяў бы цукару кулёк*
*І хоць кавалачак вяндліны,*
*Ды цэны, як электраток,*
*Мяне штурхаюць ад вітрыны.*

*На свеце хочуць жыць усе.*
*Жадаю шчасця ўсім і міру!..*
*Вароне Бог, а не лісе*
*Аднойчы даў кавалак сыру.*

### Незнаёмка

*Букет*
*Вам кветак-незабудак!..*
*Не знаю Ваш жыццёвы шлях.*
*Чамусь застыў вялікі смутак*
*У Вашых ангельскіх вачах.*

*Машыну можна мець і дачу,*
*І да начальства дарасці.*
*Багатыя таксама плачуць,*
*Не гладка ўсё ідзе*
*ў жыцці.*

### Жыццёвая ноша

*Хтось палюбіў красу,*
*Хтось кінуўся ў раскошу,*
*А я далей нясу*
*Пакут жыццёвых ношу.*

*А ноша ўсё цяжэй*
*І ўхабіцца дарога —*
*Нясу грахі людзей*
*І гнеў вялікі Бога!*

*Кастроў паходніх дым*
*Мне бачыцца ў прасвеце...*
*Не мне, а маладым*
*Жыць прыйдзецца на свеце.*

*Якую ж для сябе*
*Ім выбіраць дарогу:*
*Згараць у барацьбе*
*Ці пакарацца Богу?*

ЗГАДКІ

7 сакавіка споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Тараса Хадкевіча. Многія яго сучаснікі пакінулі цікавыя ўспаміны пра гэтага чалавека, які на працягу ўсяго жыцця верыў у "нястрымны рух народа-стваральніка", у росквіт роднай Беларусі".

З ласкавай згоды Эдзі Агняцвет прапануем вашай увазе яе лірычны ўспамін пра Тараса Хадкевіча, які яна перадала разам з іншымі матэрыяламі ў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.

# Наш незабыўны Тарас

Перад вачыма — высокі, нешматслоўны і вельмі сімпатычны хлопец, супрацоўнік рэдакцыі "Чырвоная змена" — Тарас Хадкевіч.

— Заходзьце, не саромцеся! — А ў самога — сарамлівая, мілая ўсмешка.

Быў 1933 ці 1934 год. Рэдакцыя нашай камсамольскай газеты знаходзілася на вуліцы Карла Маркса. Гэты дом цудам уцалеў у вайну (цяпер у тым памяшканні камісійны магазін). Праходзячы міма яго, я ўспамінаю, з якім трапятаннем прыносіла ў рэдакцыю вершы, як падбадзёрваў мяне добрым словам і проста ветлым, гасцінным позіркам Тарас. Малады журналіст, пачынаючы пісьменнік, ён адчуваў, як гэта неабходна чалавеку на пачатку жыццёвай дарогі.

Міналі гады. Ён пасталеў, стаў вядомым, прызнаным празаікам. Але засталася тая ж сціпласць, застаўся той жа добразычлівы, вельмі сардэчны позірк.

Часцей за ўсё Тарас Канстанцінавіч успамінаецца ў карычневым гарнітуры, у светла-жоўтай, сонечнай кашулі, падцягнуты, прыгожы і засяроджаны. Быццам ідзе і прыслухоўваецца да сваіх думак, да сваіх клопатаў.

Мне вельмі падабаліся ў яго характары сур'ёзнасць і глыбіня, непаказныя дабрата і чалавечнасць. Ён любіў людзей і радаваўся, калі людзі адказвалі яму на любоў.

Аднойчы я паслала латышскім дзецям, вучням 6-й Рыжскай школы альбом-нарыс Тараса Хадкевіча "Мая Беларусь". Для іх гэта было першым, канкрэтным знаёмствам з Беларуссю. Расказала ў лісце аб добрых дзіцячых кнігах пісьменніка "За сінім лесам", "Жыла-была казка", "Спеюць яблыкі".

Латышскія дзеці з захапленнем вывучылі кнігу "Мая Беларусь", напісалі словы ўдзячнасці таму, "хто павёў нас дарогамі беларускага краю — такога блізкага да латышскай прыроды".

Я зайшла ў Саюз пісьменнікаў, дзе працаваў Тарас Канстанцінавіч, паказала яму ліст. Тарас аж засвяціўся ад радасці:

— Слухай, а можа, яны адчулі, што я сам родам з Віцебшчыны. Дзвіна — гэта тая ж Даўгава...

Успамінаюцца сумесныя падарожжы, камандзіроўкі.

У маі 1965 года мы ездзілі на V з'езд пісьменнікаў Узбекістана. Краіна "белага золата" сустрэла нас ружамі — чырвонымі, ружовымі, жоўтымі. Яны цвілі ўсюды — і ў Ташкенце, і за горадам, дзе размясцілі гасцей. Там быў вялізны сад, дзе на розныя лады заліваліся салаўі. Тарас выглядаў захмялелым ад гэтага шаленства прыроды, якая аглушыла, зачаравала сваімі галасамі і фарбамі пасля нашай запозненай вясны.

На лаўцы, пад агромністай ліпай, прыпыніліся Лідзія Рыгораўна Бацэ — даўні знаўца і друг Узбекістана, Тарас Хадкевіч і я.

Маўчалі ўсе. І раптам загаварыў наш Тарас. Ён успомніў сваю маладосць, як ён закахаўся ў Клаву — вясёлую, семнаццацігадовую, які ён быў тады шчаслівы...

Я ўпершыню бачыла такога Тараса — лірычнага, узбуджанага, гаваркога.

З нейкім асаблівым душэўным уздымам ён выступіў і на з'ездзе ўзбекскіх пісьменнікаў. Гаварыў аб нашай любові да ўзбекскай зямлі, апетай вялікім Якубам Коласам. На заканчэнне Тарас сказаў: "Нашы жанчыны вышылі для вас ручнікі,і паднясе яго жанчына — наша паэтэса".

Усім вельмі спадабаўся ручнік з надпісам: "Пісьменнікам Узбекістана ад пісьменнікаў Беларусі".

Пасля гэтай паездкі я думала, што "лірычнае адступленне" Тараса — успамін аб першым каханні — было невыпадковым. Прыгадалася яго Васіліна з аповесці "Вяснянка". Ён быў чалавекам глыбока-эмацыянальнай душы, але па-мужчынску стрыманы, скупы на словы ў будзённым жыцці. І толькі ў незвычайных абставінах прарываліся яго глыбінныя пачуцці.

І яшчэ адна паездка.

Быў снежань 1970 года. Вялікая група літаратараў выехала на Віцебшчыну. Было шмат выступленняў, сустрэч. Мне асабліва запомніўся Наваполацк. Каб разгледзець лепш гэты малады, працавіты, вельмі сучасны горад, — я рана ўстала і пайшла да Дзвіны.

Толькі развіднела. Шумелі сосны над заледзянелай ракой. Раптам, гляджу, — пад калючым снегам ідзе Тарас Хадкевіч. Чорная кепка нізка насунута на бровы. Халодныя вятры ўздымаюць крысо яго паліто.

Тут ён быў, калі нараджаўся горад. Тут знаходзіўся месяц за месяцам, перажываў з будаўнікамі ўсе цяжкасці і радасці творчасці. Вострым пяром напісаны нарыс "Нафтагігант на Дзвіне".

І вось цяпер пісьменнік пакінуў утульны пакой гасцініцы і выйшаў на прастор. Тарас сур'ёзны, заклапочаны. Павітаўся і гаспадарскім вокам агледзеў усё наваколле.

— Добра? Праўда? Ну, прыглядайся, назірай, а я пайду.

І шырокім, хуткім крокам пайшоў уздоўж Дзвіны — ракі свайго маленства, ракі свайго жыцця...

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

# Пра сваіх, пра іншых, пра смерць

## "ПРЫ ЗАЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРАХ" Ж-П. САРТРА НА МАЛАДЗЕЧАНСКАЙ СЦЭНЕ

Рэжысёр Венедыкт Растрыжэнкаў, седзячы ў Маладзечне, ці не першым сярод практыкаў сцэны агледзеў памылку ў беларускім выданні Сартравага перакладу. "Пекла — гэта іншае", — вылятала з вуснаў персанажа п'есы "Пры зачыненых дзвярах". Між тым наконт знанага "Пекла — гэта іншае" каментарыяў можна сабраць на выданне. І для аматара тэатра, і ўвогуле для сучаснага беларускага інтэлектуала Сартр яшчэ не стаўся "мінулым этапам". Яго толькі пачалі ставіць ды выдаваць, узбройвацца магчымымі тлумачэннямі, досведам замежнікаў, сведчаннем часу пасярод пяшчотнай абыякавасці (выраз Камю) тутэйшага тэатральнага сусвету.

П'еса "Пры зачыненых дзвярах" датуецца 1945 годам. Толькі-толькі амерыканцы ды саюзнікі прамаршыравалі па Елісейскіх палях; яшчэ раней па мінскім праспекце імя Сталіна прайшліся партызаны з казой ды савецкія танкі. "Іншыя" з'явіліся, зніклі, ізноў з'явіліся. Пекла выпала тубыльцам. Маштабы падзей, учынкаў ды грахоў быцця здаюцца непараўнальнымі з грашкамі побыту: спадар у п'есе Сартра адметны баязлівец, першая спадарыня ўсяго толькі любіць памардаваць ды папрыніжаць, безумоўна любячы спадарыняў, да сябе падобных; другая спадарыня заклапочана сваёй рэпутацыяй ды дзеля яе пазбаўляецца немаўлятка-дачкі самым гвалтоўным спосабам... Маштабы грахоў і памеры грашкоў! Нават самы дробна-гнюсны не будзе дараваны: на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра тры фатэлі (не Сартравы канапы) як мэбля для суддзяў занялі свае месца. Спадары зробяцца гэтымі суддзямі адзін аднаму. У пекле ашчаджаюць на персанале, — як здагадаецца самая разумная з трох...

Фатэль з бардовай драпіроўкай — якраз насупраць фатэляў з драпіроўкай сіняй (блакітнага аксаміту, я так разумею, проста не знайшлі) ды зялёнай ("ядавіта-зялёнай" у Сартра, палыновага адцення ў мастака Яўгена Волкава. "Героі Сартра ў пекле, але ж гледачы — у тэатры", — хутчэй за ўсё, Яўген разважаў менавіта так). І — толькі ў такім парадку, месцамі іх не памяняеш. (Я лішні раз зазірнула ў Сартра, ці няма дзе якога кіраўніцтва для пастаноўшчыка або каментару перакладчыка Зміцера Коласа, — не, гэткія далікацтвы Венедыкт Растрыжэнкаў мусіў вырашаць сам. Адштурхвацца і ад магчымай сімволікі колераў, і ад класічнага абсталявання на сцэне. Праўда, яго тэхнічнае выкананне вымагае нараканняў і шкодзіць эстэтычнай задуме. Спектакль Растрыжэнкава далікатна наследуе драматургу Сартру. Сведчыць, што "пры зачыненых дзвярах" — гэта судовы тэрмін, які застаўся ў сучаснай французскай яшчэ з глыбіні сярэднявечча, і таму распавядае не пра жахі ды сусветны эксперымент, не пра ажыўленне нябожчыкаў. Да Страшнага суду яна мо і не дацягнуць. Таму — сцэнічныя дзверы зачыняюцца і разбіранне з жыццёвымі недасканаласцямі мусіць цягнуцца. Для акцёраў — нават без антракту, бо, як яны самі вырашылі, перапынак за кулісамі разняволіць і яны не набяруць патрэбнага стану для развіцця дзеяння і фіналу.

Іх грэшныя персанажы ўвесь час адзін у аднаго перад вачыма. Яны блізка, але выйсця ў блізкасці не будзе. Яны мусяць тарапіцца адзін у аднаго і прыкмячаць самыя няўгледныя зрухі адно ў адным. І... "нібыта было мала нам сапраўдных бед і мук. Словамі даб'ём сябе": слоўныя эскапады паступова змушаюць іх думаць. Розум павядзе рэй і дапаможа кшталціцца душы...

Ірэальная драма Сартра мае класічнае трыадзінства месца, часу і дзеяння. Мае класічны трохкутнік — мужчыну і дзвюх жанчын. Утрымлівае ўсе, вядомыя таксама яшчэ з сівой класікі, комплексы і заганы, нават тыя, што паблажліва даруюцца публікай хіба Эсхілу ды Сафоклу (калі шырокай публіцы выстачыць раз у жыцці пабачыць іх творы на сцэне). Як у правінцыйным беларускім тэатры канца другога тысячагоддзя сыграць каханне жанчыны да жанчыны? Пякельнае, заўважце. Толькі ж... ці за каханне ў пекле Інэса (Алена Рахмангулава)? Хіба за наступствы: гібенне, чужое самагубства, знявагу, схільнасць прыніжаць. За зласлівы нораў і злую душу. Гэтая сціплая паштовая служачая — самая разумная, скажам, абазнаная душа ў пякельным памяшканні. Таццяне Грасевіч, прадставіўшы сваю гераіню Эстэлу ўзвышанай, датклівай і нават далікатнай асобай, удаецца падаць ролю ў развіцці: інтанацыі дамы ў карунках пацвярдзеюць, выступіць хцівасць, зайздрослівасць, нават жорсткасць! Адзіны мужчына ў выкананні Віктара Багушэвіча, спадар Гарсэн, гэтаксама выпрастуе... да шэраговае бабы з усімі бабскімі заганамі. Ён з'явіцца ў пакойчык пякельнай гасцільні першым, ён паспрабуе зрабіць добрае ўражанне на калідорнага і паспее крыху агледзецца да прыбыцця дзвюх суседак. Сартр пакідае акцёра... толькі што літаральна не голым, але яму трэба адкрывацца публіцы самым пякельным чынам. Драматургія прымушае акцёра быць як мага актыўным, і тое, што дзеянне не перапыняецца нават у антракце (гледачы ідуць адпачываць пасля рашэння персанажаў змоўкнуць і разысціся па кутах), спрыяе, мовім так, ушчыльненню атмасферы. Бо нічога звыкла пякельнага сцэна сабой не ўяўляе, і побытавасць, вонкавая побытавасць пакутаў мусіць уразіць гледача мацней за дарагія эфекты сучаснай сцэнаграфіі (яны б пякельна разарылі Маладзечанскую драму на доўгія гады). Пякельныя пераўтварэнні нагадваюць наш адметны побыт у шматнаселеных малагабарытных кватэрах: сямейнікі самыя інтымныя патрэбы адпраўляюць за тонкімі дзвярыма, так што любы гук ці шолах красамоўна падкажа прычыну, з якой гэтыя дзверы намагаюцца шчыльней зачыніць. Акцёры дакладна выконваюць рэжысёравы задачы ("Я пакінуў ім дастаткова свабоды для імправізацыі", — удакладніў Венедыкт Растрыжэнкаў). Іх выдае хіба несталічная далікатнасць, нейкае ўнутранае, пяшчотнае, трапяткое стаўленне да сцэны. Праз іх бязгрэшныя акцёрскія індывідуальнасці персанажы міжволі мізарнеюць... Я спадзяюся, мяне зразумеюць прафесійныя людзі і не дапусцяць нават прывіду крыўды: уявіце любую беларускую "зорку" ў любой з Сартравых роляў і вы адразу зразумееце, што я маю на ўвазе, кажучы пра маштаб. Уяўляю рызыку маладзечанцаў з такою п'есаю і разам з імі радуюся ўдалай пастаноўцы.

Роля, якая здалася мне бездакорнаю, страціла свайго выканаўцу. Калідорны, пякельны важаты, правадыр у сутарэннях пякельнае вітальні, Вячаслаў Шэндрыкаў, пакінуўшы спектакль, горад, жыццё, адыходам сваім зарыентаваў спектакль на той маштаб, той аб'ём, чыя адсутнасць змусіла мяне прабачацца. Вячаслаў Шэндрыкаў меў якраз тую акцёрскую індывідуальнасць, якая, здаецца, задаволіла б і самога Сартра. І тое пачуццё меры, і тое адчуванне сцэны, якога часам бракуе і самым дасведчаным акцёрам. Ролю Калідорнага цяпер выконвае Барыс Донін. Першым з'яўляецца з белых дымовых аблокаў (кананічная іерархія раю, чыстца і пекла парушана пастаноўшчыкамі: на сцэну падымаюцца з-пад масніцаў, а не апускаюцца з-пад каласнікоў, як даводзілі стагоддзі містэрый, міракляў ды рэлігійных драм). Дае тлумачэнні пра пакой, званок, фатэлі ды прадугледжаны драматургам рэквізіт. Яго цяпер слухаюцца і пабойваюцца персанажы, яго клічуць і не могуць дaклікацца. Ён дзяжурна "адбівае" сваімі з'яўленнямі прынцыповыя змены ў дзеянні. Ён, нарэшце, літаральна вядзе грэшнікаў да адзіна слушнай высновы пра пекла, якое ўтвараюць для нас іншыя.

У Сартравым пекле ў персанажаў знікаюць павекі — не заплюшчыш вочы. Няма слёз. Няма куды падзецца ад святла і гарачыні. У пекле Растрыжэнкава праз пэўны час, пры канцы спектакля, персанажам ужо не трэба даваць працы языку, зубам і вуснам: яны пачынаюць чуць адно аднаго, не разяўляючы рота, не вымаўляючы ні гуку (тэхнічна гэтаму спрыяе фанаграма). Чытаць думкі і адказваюць... думкамі! Мо розум бярэ верх над эмоцыяй? Мо выхоўваецца самае пачуццё, што меў на ўвазе не адзін французскі класік? Растрыжэнкаў, паводле ягонага ўласнага прызнання, вельмі паверыў аднаму з іх, аўтару знакамітых п'ес і не менш знакамітай філасофскай падставы для іх з'яўлення. Для абазнаных ключом у прыманні работы маладзечанцаў мусіць быць размова персанажаў пра люстэркі. "Як я выглядаю" ім доўгі час рупіць больш за тое, якія яны ёсць насампраўдзе. У фінале, калі пякельнае святло паглынае доўгачаканая цемра, сцяна каміну, неад'емнай, Сартрам заяўленай дэкарацыйнай падрабязнасці, перакульваецца, прадстаўляючы гэтае самае люстэрка: нарэшце! Нарэшце тым, хто выгаварыўся, наслухаўся і жахнуўся саміх сябе, прадстаўлена люстэрка. Люстэрка — для герояў Сартра? Для гледачоў сучаснага Маладзечна? Рэжысёрава падказка пра якасныя зрухі грэшных душаў





і іхнюю падрыхтаванасць да новага кола выпрабаванняў? Іншы кшталт — набыты? Тым больш што фінальная рэпліка перададзена рэжысёрам неапазнанаму мужчынскаму голасу, які можа быць і голасам Сартра, і голасам пекла, і голасам таго іншага, якому рупіла яго ўтварыць: "Ну што ж, паехалі далей".

І яны — знікаюць, каб пасунуцца далей. Да самарэалізацыі, да ўдасканалення. Нам жа застаецца хіба думаць пра сваіх, пра іншых або пра смерць.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымках: сцэны са спектакля "Пры зачыненых дзвярах". У ролях Алена Рахмангулава, Віктар Багушэвіч, Таццяна Грасевіч, Вячаслаў Шэндрыкаў.*

*Фота тэатра*

ПОШТА

# Працэс пайшоў...

Нават у лепшыя гады панавання КПСС мы ніколі не маглі пахваліцца дастаткам прадуктаў харчавання. Было адно, дык не даставала другога. Ну, а пра сённяшнія нялёгкія дні і гаварыць не даводзіцца: цэны растуць не па днях, а па гадзінах, а дэфіцыты ўсё абвастраюцца.

І во цуд, сам урад і прэзідэнт нечакана забілі трывогу: пагоршылася забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання, так недалёка і да сацыяльнага выбуху з непрадказальнымі вынікамі. Хто ж вінаваты ў такім становішчы? Вытворцы ці хто іншы?

Аказваецца, вытворцы тут ні пры чым. Уся бяда ў тым, што чыноўнікі, пастаўленыя на гэтую справу, не выконваюць ці дрэнна выконваюць дадзеныя ім указанні. Таму няхай і нясуць адказнасць. Так шэраг кіраўнікоў пазбавіліся сваіх кіруючых пасад і цёплых месц.

І што дзіўна, крутыя меры і захады прынеслі свае вынікі. На паліцы магазінаў раптам, як з неба тая манна, зваліліся мяса, кілбасы розных гатункаў, малочныя вырабы і іншыя дэфіцыты. Не важна, што ненадоўга, галоўнае — разрадзіць абстаноўку.

Вось, грэшнай справай, і падумалася: навошта тыя рэформы, якія на кожным кроку буксуюць; раздзяржаўленне і прыватызацыя, якія на практыцы ператвараюцца ў прыхватызацыю і карупцыю; інвестыцыі і прадпрымальніцтва, якія нараджаюць розныя парушэнні, махінацыі і, па словах прэзідэнта, "жульё"? Дзве-тры, а калі гэтага мала, то і чатыры ратацыі кадраў у прэзідэнцкіх вертыкалях і гарызанталях featureрознага ўзроўню — і ўсе праблемы, якія на першы погляд здаюцца невырашальнымі, здымуцца само сабой, як гэта адбылося з цяжкасцямі ў забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання. Словам, бура і націск, і ўсё, як гаворыцца, будзе ў парадку.

І сапраўды, як можна заключыць з апошняй пашыранай урадавай нарады пад старшынствам прэзідэнта, дзе падводзілі вынік мінулага гаспадарчага года і вызначаліся задачы і планы на новы год, так яно і будзе. Інакш як разумець, што на высокім форуме менш за ўсё гаварылася пра новыя падыходы і шляхі развіцця эканомікі, эканамічныя рычагі і стымулы, інвестыцыі і стварэнне малога і сярэдняга бізнесу, пра развіццё фермерства і фарміраванне гаспадара-ўласніка як у горадзе, так і ў вёсцы, словам, якраз пра тое, без чаго, як сцвярджаюць відныя эканамісты і палітыкі, сёння не можа быць прагрэсу і ўздыму эканомікі?

Замест гэтага і іншага, што датычыцца рэфармавання, і ва ўстановачных дакладах, і ў праграмным выступленні прэзідэнта пераважна гучалі ранейшыя стэрэатыпы і штампы — кшталту мабілізаваць, узмацніць, палепшыць, удасканаліць і далей у гэтым родзе. А як, якімі шляхамі гэтага дабіцца — тое, як заўсёды, засталося па-за кадрам.

Адно рэкамендавалася і прапанавалася: да тых, у каго па-ранейшаму не будзе росту і будзе працягвацца спад вытворчасці, не рэалізоўвацца выраблена прадукцыя, павялічвацца неплацяжы і іншыя крызісныя з'явы— прымаць самыя суровыя меры і захады, аж да вызвалення ад займаемых пасад.

Не скідваюцца з рахунку і такія выпрабаваныя метады мінулага, як "дывановыя" справаздачы, публічная крытыка і самакрытыка (гэта знізу яна атрута, а зверху — лекі), іншыя формы маральнага і эканамічнага прымусу.

А калі рэчаіснасць прымусіць сябе адчуць, а гэта непазбежна, то і тут ёсць выпрабаваны метад: выдавай жаданае за сапраўднасць. А на тых, хто будзе спрабаваць называць рэчы сваімі імёнамі, вешай ярлыкі ачарняльнікаў, нядобразычліўцаў, негатыўшчыкаў, палітыканаў. Як сведчаць матэрыялы, што выдаюцца ў апошні час СМІ, працэс гэты пайшоў.

Як бачым, адміністрацыйна-каманднае кіраўніцтва, на чым трымаўся "развитой" казарменны сацыялізм, адраджаецца і вяртаецца ва ўсіх формах і відах. Самастойны незалежны гаспадар-вытворца, які на пачатку перабудовы разглядаўся як выратавальнік і перспектыва, зноў адсоўваецца на задні план, ды яшчэ далей.

Трэба сказаць, прыхільнікаў такой палітыкі нямала. Асабліва яна па душы чыноўнай раці, celoрознага роду люмпенам, якія не жадаюць і не ўмеюць працаваць, ды яшчэ ганароваму старшынёўскаму корпусу. А чаму ж яму не радавацца? Як вынікае з Указа прэзідэнта "Аб падрыхтоўцы да вясновых палявых работ 1997 г.", ніякіх рэформ і перамен ў АПК, калгасах і саўгасах не прадугледжваецца.

Сённяшняе вышэйшае кіраўніцтва рэспублікі, бадай, забылася на той драматычны факт, што ўжо раз праславутае адміністрацыйна-каманднае, аўтарытарнае кіраўніцтва зрабіла сваю згубную справу: загнала эканоміку і грамадства ў тупік, ва ўсеагульны застой і дэградацыю, што і прывяло да распаду вялікай дзяржавы і крызісу.

Як тут не згадаць вядомага эканаміста Людвіга Эрхарда, бацьку аднаўлення разбуранай вайной эканомікі ў ФРГ, які гаварыў: "Свабодная эканоміка самаачышчаецца рынкам" і "Чым больш свабодная эканоміка, тым яна больш сацыяльная".

У нас жа ўсё мысліцца і робіцца наадварот — усё заціскаецца, падаўляецца, абмяжоўваецца, не пушчаецца. Калі ў папярэдніх парламентах, у якіх існавалі апазіцыя і фракцыі, хоць шляхам дыскусій праяўляўся нейкі плюралізм думкі, цяпер жа ўсё вырашаецца аднадушна, аднагалосна, адназначна і ніякаму абмеркаванню не падлягае.

Ну чым не аўтарытарызм, хоць прэзідэнт і не прамінае выпадку, каб не заявіць, што ён не прыхільнік такога кіраўніцтва?

**Яўхім ІВАНОВІЧ,**
**ветэран вайны і працы**

*г. Мінск*

ВІНШУЕМ!

# Дорыш музыку — і робішся багацей

***У сапраўдны аазіс цеплыні, любові і дабрыні ператварылася зала Беларускай акадэміі музыкі суботнім вечарам 15 лютага. Адбывалася вечарына, прысвечаная 60-годдзю з дня нараджэння і 40-годдзю творчай дзейнасці заслужанай артысткі Беларусі, прэзідэнта рэспубліканскай Асацыяцыі дамрыстаў і мандалiністаў, прафесара кафедры струнных народных інструментаў Галіны Асмалоўскай.***

Яе ўклад у развіццё беларускай інструментальнай культуры вельмі вялікі. Шырокая выканальніцкая і педагагічная дзейнасць, сур'ёзная навукова-метадычная праца,-у гэтых сферах выявіўся яскравы талент Г. Асмалоўскай. Сваім вучням (а іх ужо больш за 70) Галіна Віктараўна старалася перадаць любоў да музыкі, выхаваць пачуццё густу. Сярод яе выхаванцаў — студэнты Беларускай акадэміі музыкі і музычнага ліцэя, асістэнты-стажоры, у тым ліку і ВНУ Масквы, Пецярбурга, выкладчыкі мінскіх ВНУ, лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. У асобе Г. Асмалоўскай гарманічна спалучыліся не толькі выдатныя якасці музыканта-выканаўцы, здольнасці арганізатара, чуласць і спагадлівасць педагога, але і знешняя прыгажосць жанчыны з багаццем яе ўнутранага свету.

На вечарыне з найсамымі цёплымі словамі шчырай падзякі і памятнымі падарункамі звярталіся да Галіны Віктараўны калегі, былыя вучні, прадстаўнікі Міністэрства культуры, творчых саюзаў, Беларускага інстытута праблем культуры, БУКа, Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі, Сімфанічнага аркестра Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, музычных вучылішчаў. Зачытваліся віншавальныя тэлеграмы ад калег з Санкт-Пецярбурга і Масквы.

У гонар юбіляра гучала і цудоўная музыка. Выступалі аркестр “Менск” (дырыжор В.Валадковіч), “Неапалітанскі аркестр” універсітэта культуры (дырыжор Л. Жывалеўская), квартэт выкладчыкаў-дамрыстаў Рудзенскай ДМШ, ансамбль цымбалістаў БАМ (мастацкі кіраўнік Я. Гладкоў), салісты. Адметнай падзеяй сталася прэм'ера Канцэрта для домры, прысвечанага Г. Асмалоўскай яе колішнім вучнем, кампазітарам Г. Ермачэнкавым.

Сама арганізацыя гэтага свята выклікала вельмі добрыя ўражанні. Перад уваходам ў залу былі развешаны афішы канцэртаў 1974—94 гг., у якіх брала ўдзел Г. Асмалоўская ці яе вучні. Госці ўрачыстага вечара мелі магчымасць паглядзець і падборку фотаздымкаў. Пры канцы канцэрта назвалі спонсараў імпрэзы — фірму “Кока-кола”, якая, прыемна здзівіўшы ўсіх, пачаставала спадарства прахаладжальнымі напіткамі.

Вечарына сталася яскравым пацверджаннем таго, што Галіну Асмалоўскую любяць і цэняць калегі ды вучні. Яна падзякавала ўсім за віншаванні і выказала вядомую жыццёвую мудрасць: “Чым ты больш аддаеш — тым больш багацейшы робішся”, — якой сама кіруецца ўсё жыццё.



**Аксана ЗАЛАТАРОГ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

КРЭСКІ

Аркадзь НАФРАНОВІЧ

# З дарог памяці

Калі гляджу на зорнае неба, думаю пра Таго, каму было пад сілу стварыць гэты бязмежны і такі загадкавы Сусвет. І на памяць прыходзіць Уладзімір Караткевіч: “...веру ў тое, што ён ёсць. Але нават у той час, калі я веру, я ведаю, што гэта не Хрыстос, не Ягова, не Магамет і не Буда. Гэта проста нешта вышэйшае, чаго я не магу дасягнуць. Даводзіў жа хтосьці з новых, што сусвет, разам з Млечным Шляхам і іншымі зорнымі астравамі, мае форму вялікага сэрца, якое ўвесь час пульсуе. Магчыма, гэта сэрца таго “нязнанага”. Моцна ўразіла мяне гэтае разважанне. А калі за ім... геніяльная здагадка?

Стаіш, вялікі і дужы, над мурашнікам, глядзіш зверху на гэты шэры стажок — маленькую планету з бясконцым мноствам насельнікаў. На першы погляд — адна бязладная мітусня. А прыгледзішся пільней — якая там арганізацыя жыцця! А раптам вось так і на нас, на нашу Зямлю глядзіць хтосьці, неймаверна вялікі і дужы, з Космасу?

І цікава, і вусцішна...

Усё гаворым пра “той свет”. Падарожнікі, пажыўшы на адкрытых імі землях, вярталіся дадому і расказвалі пра ўбачанае і перажытае, пра свае ўражанні ад сустрэч з невядомым. А хто і калі, пабыўшы на “тым свеце”, вярнуўся і расказаў аб ім? Боязь смерці, жаданне жыць вечна (хай сабе і на “тым свеце”) схіляюць чалавека да фантазіі...

Было гэта яшчэ пры ўсеўладдзі камуністычнай партыі. У калгасным клубе дырэктар мясцовай школы чытаў даклад на тэму “Паходжанне хрысціянскіх свят”. Закончыўшы даклад, звярнуўся да аўдыторыі: “Якія, таварышы, будуць пытанні?” Падняўся шаноўных гадоў брыгадзір будаўнічай брыгады, чалавек з “філасофскім ухілам” і зычна сказаў: “Слыш, дарэктар, ты не дакажаш, што Бога няма, а я не дакажу, што ён ёсць. Стала быць — мы з табой абодва дурні”.

“Ідзі, сынок, у хату, дош ідзець”, — гаворыць пяцігадовому хлопчыку дваццацішасцігадовы бацька, у якога яшчэ свежыя ўражанні ад школы, дзе ён правучыўся дзесяць гадоў. Дзіця пабегла дахаты, весела выкрыкваючы: “Дош ідзець, дош ідзець!”

Вось так: народ будзе гаварыць так, як гавораць у сям'і. Гэта глыбей пранікае ў чалавека, чым школьнае.

Мая маці разам са сваёй роднай сястрой у 1916 годзе паехалі ў Петраград на заробкі. Мелі па чатыры класы адукацыі, спецыяльнасці — аніякай. Уладкаваліся на парахавы завод — набівалі гільзы патронаў порахам.

У падручніку гісторыі для 4-га класа пісалася, што рабочыя капіталістычнай фабрыкі жылі ў цяжкіх матэрыяльных умовах, ледзь зводзілі канцы з канцамі.

І тут я ўспомніў, што мая маці была рабочай капіталістычнай фабрыкі. Маці і яе сястра атрымлівалі ў месяц па 25 рублёў. Ці вялікія гэта былі грошы? Зарплаты адной хапала абедзвюм пракарміцца. А другія 25 рублёў — адкладвалі на адзежу.

Выходзіць, падручнік падманваў мяне, настаўніка, а я ў сваю чаргу — дзяцей. Без віны вінаваты.

Асабіста ведаю людзей, якія, будучы камуністамі, ледзь не плявалі на іконы. Сёння яны рэгулярна ходзяць у святы храм, цалуюць ручку святому айцу. Такія людзі вельмі непрадказальныя: куды вецер вее, туды голле гнецца.

І сёння ў вёсках сустракаюцца мужчыны, якія любяць пахваліцца сваёй гаспадаркай. Надарыцца госць — гаспадар гаворыць яму: “Сходзім у хлеў, паглядзім на маю скаціну”.

А ў нашай вёсцы, было гэта ў трыццатыя гады, жыў селянін, меў ён 15 гектараў зямлі, дапамагаў яму ў рабоце парабак. І была ў селяніна вельмі прыгожая жонка. Бывала, паснедаюць — і на сенакос. Адыдуцца крыху ад хаты, спыняцца, закураць. І тут гаворыць гаспадар парабку: “Давай, браце, вернемся дамоў, паглядзім яшчэ раз на маю жонку”.

У кожнага сваё ўяўленне аб багацці.

На верхнім паверсе ўлады чатыры чалавекі павінны гаварыць абавязкова на беларускай мове. Гэта:

Прэзідэнт — ён сімвал нацыі.

Міністр замежных спраў — ён прадстаўляе нацыю за мяжой.

Міністр адукацыі — ён адказвае за выхаванне нацыянальна свядомага падрастаючага пакалення.

Міністр культуры — ён адказвае за захаванне нацыянальных духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў народа, забяспечвае ўмовы для выяўлення і развіцця нацыянальных талентаў.

Астатнія могуць гаварыць хоць на хіндзі, абы справы ладзіліся.

Перад тэлекамерамі рвалі партбілеты, кідалі іх у скрынкі для смецця. Героі? Былі б імі, каб такое здзейснілі пры абсалютнай дыктатуры КПСС. Тады гэтыя “героі” паводзілі сябе цішэй, чым мышы пад венікам.

Героі — дзекабрысты: ведаючы, што іх чакае ў выпадку няўдачы, яны свядома выступілі супраць рэжыму.

Чалавек у царкве памаліўся, паспавядаўся, вярнуўся дадому. Пайшоў у хлеў, а там карова паламала загарадку. Ударыў яе палкай, стаў мацюкацца. Ідуць бабулі з касцёла — дружна перамываюць костачкі сваёй суседкі. Закрадваецца сумненне: ад наведвання святых храмаў ці становяцца людзі дабрэйшымі?

Калі ён паднімаў цяжкі груз, маці папярэджвала: “Не жыльзя, сынок”. А цешча хваліла: “Ну і дужы ты, зяцёк”. Калі састарэў, цешчыны словы забыліся, а матчыны — заўсёды былі на ўспаміне.

“Нашы ахвяры ў Афганістане апраўданыя” — заявіў падчас той вайны адзін партыйны бос. Карыстаючыся сваёй уладай, дамогся праз ваенкамат, каб яго сын нёс тэрміновую службу ў гарнізоне, размешчаным у сваім горадзе. Вельмі проста гаварыць аб такіх ахвярах, калі чужых, а не тваіх дзяцей прывозяць дамоў у цынкавых трунах.

Калі задаецца пытанне, якое ўтрымлівае ў сабе сумненне адносна рэлігійных ісцін, — гэта ўжо лічыцца грэхам. Але ж Бог, стварыўшы чалавека, надзяліў яго здольнасцю думаць. А калі так, то Усявышні ў самым пачатку прадбачыў, што ў чалавека будуць узнікаць шматлікія пытанні. І аднойчы ён можа задаць такое, на якое ці адкажа хто-небудзь: “А ці ёсць Бог?” Нічога страшнага, усё натуральна. Каб чалавек не мог мысліць і ставіць перад сабой і другімі пытанні, Богу было б ніякавата за сваё недасканалае тварэнне.

Жыў у Мінску. У родную вёску амаль не наведваўся. Памёр бацька, а неўзабаве пакінула белы свет і маці. Стаў прыязджаць на могілкі. Пакуль аўтобусамі дабярэцца — ужо позні вечар. Цішыня, свеціць месяц, а ён, прыпаўшы да магілкі, плача. Ды так надрыўна, роспачна... У вёсцы ўсё чуваць. Жудасна рабілася людзям ад гэтага чалавечага адчаю. Потым на магілах з'явіліся шыкоўныя помнікі. Ды хіба гэта патрэбна мёртвым?

Позна ці рана наступае горкае раскаянне. Да бацькоў трэба спяшацца, дапамагаць ім, пакуль жывыя. Заўважана, што дзеці, як правіла, да нас будуць адносіцца гэтак жа, як мы да сваіх бацькоў.

Няма благіх (маецца на ўвазе характар) міністраў, дырэктараў, брыгадзіраў і г.д. — ёсць благія людзі, прызначаныя на гэтыя пасады.

Усё жыццё пісаў пра гуманізм. А папрасіўся чалавек на начлег — і не знайшлося месца.

Хто не бачыў карціну “Сям'я Ульянавых” (групавы партрэт). Восем душ жыло на жалаванне аднаго чалавека — Ільі Мікалаевіча, які працаваў інспектарам народных вучылішчаў. Усе дзеці вучыліся, маці была хатняй гаспадыняй. У Сімбірску пад жыллё арандавалі двухпавярховы асабняк. Паспрабуй цяпер такая сям'я пражыць на **адну** настаўніцкую зарплату.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА. ЛіМ. ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5040
Нумар падпісаны 13.3.1997 г.
Заказ 1419/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12